НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

# Метрыка Вялікага Княства Літоўскага

## Кніга № 560

(1542 год)

Кніга перапісаў № 3
(Копія канца XVI ст.)

Падрыхтаваў
Алег Дзярновіч

Мінск
“Беларуская навука”
2007

УДК 930.22:94 (476) “1542”
ББК 63.2 (4 Беи)
М 54

**Метрыка** Вялікага Княства Літоўскага: Кніга 560 (1542 год): кніга перапісаў № 3 (копія канца XVI ст.) / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі; падрыхтаваў А. І. Дзярновіч. – Мінск: Беларуская навука, 2007. – 157 с.
ISBN 978-985-08-0813-4

Кніга Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага № 560 (альбо Кніга перапісаў № 3) прысвечана дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы паміж ВКЛ і Лівоніяй у 1542 г. Апроч таго, значную частку кнігі складаюць матэрыялы пра лакальныя канфлікты на гэтай мяжы ў першай палове XVI ст. Кніга Метрыкі № 560 утрымлівае важныя звесткі па гістарычнай геаграфіі і тапаніміцы Паўночных Беларусі і Літвы (ВКЛ), а таксама Паўднёвай Латвіі (Лівонія). Матэрыялы Кнігі № 560 з’яўляцца цікавай крыніцай па гісторыі права, генеалогіі, гаспадаркі, мовы.

Кніга № 560 уводзіць у навуковы ўжытак новыя звесткі і будзе карыснай гісторыкам, гісторыкам права, генеолагам, палеографам, крыніцазнаўцам, гісторыкам мовы, тапаністам, географам і эколагам, усім неабыякавым да гісторыі і прыроды вазёрнага краю на сутыку Беларусі, Літвы, Латвіі.

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Георгій Галенчанка;
кандыдат гістарычных навук Валеры Мянжынскі;
кандыдат філалагічных навук Уладзімір Свяжынскі;
кандыдат гістарычных навук Валеры Пазднякоў.

# УВОДЗІНЫ

## 1. Кніга № 560 Метрыкі ВКЛ: архіўная гісторыя і вывучэнне

Кніга № 560 Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага (далей – Кніга № 560), што захоўваецца ў Расійскім Дзяржаўным Архіве Старажытных Актаў (РГАДА) у Маскве, паводле агульнай валавай нумарацыі Фонда № 389 “*Литовская Метрика*” (Вопіс 1, Частка 1, Справа 560) належыць да так званага Разраду IV “Кнігі перапісаў”, які быў вылучаны сярод іншых разрадаў гэтага корпусу крыніцаў яшчэ ў першай палове XIX ст. ды замацавана вопісам Станіслава Пташыцкага – паводле Пташыцкага Кніга № 560 з’яўляецца Кнігай перапісаў № 3 [1]. Разрад IV складаецца з рэвізій і інвентароў гаспадарскіх маёнткаў і замкаў, а таксама апісання дзяржаўных межаў[2]. Але ў разрад патрапілі і іншыя матэрыялы, якія тэматычна не трапляюць у гэты пералік[3].

Акты дэлімітацыяў і дэмаркацыяў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Лівонскай Канфедэрацыяй з’яўляюцца адметнай часткай матэрыялаў Метрыкі ВКЛ – яны знаходзяцца як сярод Кнігаў запісаў[4], так і сярод Кнігаў публічных справаў[5], а таксама Кнігаў судовых справаў[6]. Але дзве кнігі сярод Кнігаў перапісаў цалкам прысвечаны справам мяжы паміж ВКЛ і Лівоніяй – гэта Кнігі № 559 і № 560.

Уласна Кніга № 560 з’яўляецца копіяй, зробленай у канцы XVI – пачатку XVII ст. (верагодна у канцы XVI ст.), калі пад кіраўніцтвам канцлера Льва Сапегі ажыццяўлялася праграма па капіяванню дакументацыі Канцылярыі ВКЛ (1594—1607 гг.). Кніга складаецца з двух асноўных, прыблізна роўных па аб’ёму, тэкставых блокаў – Акта дэмаркацыі 1542 г. (з устаўкай фрагмента Акта дэмаркацыі 1541 г.) (арк. 1—18 v.) і запісу скаргаў памежных

---

[1] Пташицкий С. Л. *Описанiе книгъ и актовъ Литовской Метрики*. СПб., 1887. С. 161, IV.A.3.

[2] *Российский государственный архив древних актов*: Путеводитель: В 4 т. Т. 4 / Составитель Ю. М. Эскин. М., 1999. С. 62—62.

[3] Grimsted P. K. Układ i zawartość Metryki Litewskiej // *Archeion*. 1986, T. LXXX. S. 155—156.

[4] *ЛМ-5*, арк. 292—294; публ.: Dogiel, *Limites*, p. 207—211; Dogiel, *CD-5*, Nr. 82, p. 142—143; *LM-5*, № 125, s. 235—238.

[5] *ЛМ-525*, арк. 56 v. – 62 v.; публ.: Dogiel, *CD-5*, Nr. 90, s. 110—115; *ЛМ-525*, арк. 84–96, 155–167 v., 238–240 v., публ.: Dogiel, *Limites*, p. 211—219; Dogiel, *CD-5*, Nr. 113, p. 192—195.

[6] *ЛМ-223*, арк. 203—206; публ.: Dogiel, *Limites*, p. 219—225.

жыхароў ВКЛ (арк. 20—37)[7]. Пасля таго, як невядомы нам дзяк перапісаў кнігу (почырк I), іншы службовец Канцылярыі ВКЛ Адам Мацеевіч Пашкевіч зрабіў свае праўкі і паметкі (почырк $II_{пм}$). У далейшым кнігу-копію рэвізаваў інстыгатар ВКЛ Мікалай Мархач-Пузялеўскі, які быў намінаваны на сваю пасаду 24.IV.1604 (займаў гэты ўрад па 1623 г. уключна, памёр перад 1626 г.)[8]. Інстыгатар пакінуў у рукапісу завяральныя запісы (почырк $III_{пм}$). Справа ў тым, што паводле пастановы сейма 1607 г. утваралася спецыяльная камісія, якая павінна была спраўдзіць адпаведнасць новых кніг-копій даўнім арыгінальным і зацвердзіць іх[9]. Асноўная праца і была выканана да 1621 г. пад кіраўніцтвам сакратара А. Дольскага і інстыгатара М. Мархач-Пузелеўскага. Усе гэтыя канцылярскія працэдуры (перапісванне і рэвізія) адбываліся ў Вільні. Таксама паводле пастановы сейма 1607 г. старыя і новыя кнігі павінны былі захоўвацца адасоблена. І менавіта Кніга-копія № 560 выкарыстоўвалася надалей у гаспадарскай Канцылярыі. Арыгіналы (першапачатковыя кнігі) засталіся ў Ніжнім замку Вільні і пазней амаль усе загінулі ў гады дзяржаўнай разрухі XVII ст.

Кніга № 560 фігуруе ў Рэестры ад 11.III.1623 г., які мае загаловак „Regestr xiąg Metryki Wielki[ego] Ks[ię]stwa Lit[ewskie]g[o] ode mnie Leona Sapiehi, wojewody Wileńskiego, oswieconemu książęciu Olbrychtowi Stanisławowi Radziwiłowi na Ołyce i Nieswiżu, kanclerzowi Wielki[ego] Ks[ię]stwa Lit[ewskie]g[o], w roku terazniejszym 1623 m[ie]s[iąc]a marca jedynastego dnia oddanych”. Гэта перадатачны вопіс Льва Сапегі новаму канцлеру ВКЛ Альбрыхту Станіславу Радзівілу. Пэўна разам з Кнігай № 559 (Кнігай перапісаў № 1) яны названыя, як „Księgi niewielkie opisania granic W[ielkieg]o Ks[ię]stwa Lit[ewskie]go z Ziemią Inflanską, poczawszy od ieziora Kurczow az do granic moskiewskich przez Iwana Hlebowicza Korsaka, a ia Jana Szkolowicza. Roku niemasz”[10]. У рэестры зроблены памылкі:

---

[7] Падрабязнае апісанне глядзі ў § 2 Прадмовы “Знешнія прыкметы рукапісу”.

[8] *Urzędnicy centralni*, nr. 183, S. 49, 220; S…cki. Dostojnicy litewscy. Rożbiór krytyczny i uzupełnienie dzieła J. Wolffa „Senatorowie” // *Ateneum*. 1886, t. 1. S. 159.

[9] Banionis E. Lietuvos Metrikos knygos: sąvoka, terminas, definicija // *Lietuvos istorijos metraštis 1988*. Vilnius, 1989. P. 137; Галенчанка Г., Спірыдонаў М. Метрыка Вялікага Княства Літоўскага // *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*. Т. 5. Мн., 1999. С. 123.

[10] *Расійская Нацыянальная Бібліятэка (Санкт-Пецярбург)*. Аддзел рукапісаў, «Собрание Дубровского», № 124, арк. 102. Публікацыя: Голенченко Г. Я. Реестр книг Метрики Великого княжества Литовского 1623 г. // *Исследования по истории Литовской Метрики*: Сборник научных трудов. [Ч. 2]. М., 1989. С. 349, 364. Гл. таксама апісанні: Korzeniowski J.

калі назва возера Курчум магла перадавацца як Курчаў, то камісарам ў дэмаркацыі быў не Ян Шкаловіч, але Ян Сакаловіч. Год дэмаркацыі быў невядомы дзяку (пісару), які складаў рэестр, бо, сапраўды, у пачатку кнігі дата не пазначана – яна маецца толькі на арк. 6. Тэкст рэестру падзелены на храналагічныя блокі (раздзелы) паводле панавання ўладароў ВКЛ. У раздзеле “Za panowania swientej pamięci krola je[go] m[o]s[ci] Zygmunta Augusta” анатацыя кнігі мае № 62. Але ў сваіх параўнаўчых табліцах Патрыцыя Кенэдзі Грымстэд і Ірэна Сулкоўска-Курасёва падаюць кнігу ў Рэестры 1623 г. пад № 99 і толькі ў дужках (62). Тут па-просту пададзена агульная валавая нумарацыя кніг з улікам папярэдніх раздзелаў.

У 1740 г. была праведзена праверка кнігі. Гэтая акцыя ў спецыяльнай літаратуры не прыгадваецца, але мы маем матэрыяльныя сведчанні таму – зробленую почыркам $IV_{пм}$ паметку на пустым аркушы 37 v.: “1740 fuit”. Магчыма, гэтая праверка была зробленая перад перавозкай Метрыкі ВКЛ у Варшаву, якая адбылася да 1747 г. (паводле іншых звестак – на працягу 1747—1751 гг.)[11]. Але наяўнасць словаў “in archivis metryk oboyga Reipublicae” у Рэестры 1747 г. (гл. ніжэй) дазваляе меркаваць, што гэтая перавозка была закончаная перад 1747 г.

Пасля перавозкі Метрыкі ВКЛ з Вільні ў Варшаве яна захоўвалася ў Каралеўскім архіве, дзе разам з Кароннай Метрыкаю склала Таемны архіў – гэта значыць адасоблены, ведамасны. Кніга была зазначаная пад № 52 у Рэестры 1747 г. („Inwentarz xiąg Metryki W. X. L. za panowania nayiaśnieyszego króla I. Augusta III za sprawą Yaśnie Welmożnego I. P. Jana Fryderyka... Sapiehy, kanclerza w. W. X. L... y Jaśnie Oświeconego X. I. Michała... Czartoryskiego, podkanclerzego W. X. L... przez nas Jana Chrapowickiego, starostę Szuneliskiego, y Iana Szadurskiego, obóznego inflantskiego kommissarzów do rewizyi y uczynienia należytego porządku in archivis

---

Zapiski z rękopisów Cesarskiej Biblioteki Publicznej w Petersbergu i innych bibliotek petersburskich // *Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce*. T. 11. Kraków, 1910. S. 366; Голенченко Г. Я. Неизвестный реестр Метрики Великого княжества Литовского в собрании П. П. Дубровского // *Книга в Белоруссии: Книговедение, источники, библиография* (Сборник статей). Мн, 1981. С. 27—41; Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The “Lithuanian Metrica”*... P. 13—14, A-29, A-97.

[11] Sułkowska–Kurasiowa I. Archiwum dokumentowe Wielkiego Księstwa Litewskiego // *Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie: Przewodnik po zespołach.* Warszawa, 1975. S. 87 (Archiwa dawnej Rzeczypospolitej, t. 1); Baliulis A. Iš Lietuvos Metrikos knygų ir dokumentų leidimo istorijos // *Lietuvos archyvai.* 1996, Nr. 7. P. 47; Дубоніс А. Праблемы Літоўскай Метрыкі: погляд з Вільнюса // *Metriciana: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага*. Т. II, 2003. С. 18.

metryk oboyga Reipublicae, sporządzony; a po sporzędzeniu do rąk I. P. Józefa Mikłaszewicza, sekretarzy I. K. Mości, metrykanta W. X. L. Podpisem rąk naszych podany roku 1747, miesiąca maja dnia 4”)[12]. Названы рэестр быў падрыхтаваны Янам Храпавіцкім і Янам Шадурскім, але загінуў у сталіцы Польшчы ў 1944 г. Затое яшчэ да пачатку II Сусветнай вайны было апублікавана апісанне рэестра, зробленае Ст. Пташыцкім[13]. Напісаная на арк. 1 кнігі № 560 почыркам $V_{пм}$ уверсе злева лічба “52” якраз і з’яўляецца нумарам кнігі ў варшаўскай канцылярыі пасля 1747 г.

Апроч таго, звесткі па Кнізе № 560 патрапілі ў Сумарыюш кніг Метрыкі ВКЛ, падрыхтаваны ў Варшаве на працягу 1747—1751 гг.: “Summaryusz xiąg Metryki Wielkiey W. X. L... za panowania nayaśnieyszego króla I. Augusta Trzeciego... za sprawą J. W. I. P. Jana Fryderyka... Sapiehy kanclerza w. W. X. L. y J. X. I. Michała... Czartoryskiego podkanclerzego W. X. L..., przez nas Jana Chrapowickiego starostę szumeliskiego y Jana Szadurskiego obóz[nego] inflantskiego, komisarzów do rewizyi y uczynienia należytego porządku in archivis metryk oboyga Reipublicae naznaczonych, sporządzony roku 1747 m[iesią]ca maja”[14]. Сумарыюш (пашыраны рэестр з кароткім пераказам зместу дакументаў кніг) складаецца з 15 тамоў, апісанне Кнігі № 560 маецца ў т. 2 (1530—1533). Гэтае апісанне досыць кароткае – пададзены толькі тытул кнігі.

Каля 1760 г. у Варшаве быў складзены другі Сумарыюш, які цяпер захоўваецца ў Фондзе “*Archiwum Publiczne Potockich*”[15]. Гэтае апісанне, праўдападобна, грунтавалася на Сумарыюшы 1747—1751 гг. Анатацыі ў ім таксама вельмі сціплыя. Матэрыялы Кнігі № 560 пазначаны толькі на ўзроўні агульнай назвы кнігі. Названыя апісанні Кнігі № 560, як і іншых кніг, звязаныя з новым этапам захоўвання і апрацоўкі матэрыялаў Метрыкі ВКЛ – перамяшчэннем яе ў сярэдзіне 1740-х гадоў у Варшаву.

---

[12] Гл.: Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The “Lithuanian Metrica”*... P. 15, A-30, A-62.

[13] Ptaszycki S. Sumarjusz i inwentarze Metryki Litewskiej // *Archeion*. T. VIII, 1930. S. 38—40.

[14] AGAD, SumML 2, folio 151. Апісанні: Ptaszycki S. Sumarjusz i inwentarze Metryki Litewskiej. S. 38—40; Jakubowski J. Wiadomości o świeżo odzyskanym z Rosji sumarjuszu Metryki Litewskiej z lat 1747—1751 // *Ateneum Wileńskie*. T. VIII, 1933. S. 215—216; Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The “Lithuanian Metrica”*... P. 15, A-21, A-62.

[15] AGAD, Archiwum Publiczne Potockich, Nr. 18, karta 143. Апісанні: Semkowicz W. *Przewodnik po zbiorze rękopisów wilanowskich* / Red. Piotr Bańkowski. Warszawa: PWN, 1961. S. 44—46; Ptaszycki S. Sumarjusz i inwentarze Metryki Litewskiej. S. 34—37; Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The “Lithuanian Metrica”*... P. 15, A-24, A-62.

Паводле пастановы Неадменнай Рады ад 10 студзеня 1777 г. у Варшаве пачалася перапіска кніг Метрыкі ВКЛ лацінскай графікай[16]. Транслітэраваная перад 1786 г. лацінскай графікай (польскім яе варыянтам) копія кнігі складае частку Кнігі № 213 (арк. 275—339), што захоўваецца ў Варшаве ў Галоўным Архіве Старажытных Актаў (AGAD) у Фондзе "*Metryka Litewska*"[17]. У перыяд з 1747 па 1794 гады ў кнізе былі выкананы канцылярска-архіўныя паметы (почырк $V_{пм}$). Магчыма з транслітэрацыяй звязаны паметкі почыркам $V_{пм}$, якія тычацца пераважна геаграфічных рэалій і размешчаныя пераважна ў першай частцы кнігі – у апісанні дэмаркацыі мяжы.

У 1786 г. пад непасрэдным кіраўніцтвам найвышэйшага (вялікага) пісара ВКЛ Адама Тадэўша Нарушэвіча (намінаваны на пасаду 24.III.1781, адстаўка VI.1788)[18] і пры агульным кантролі канцлера ВКЛ Аляксандра Сапегі ды падканцлера ВКЛ Ёахіма Храптовіча была праведзеня новая апрацоўка кніг Метрыкі ВКЛ. Кнігі адрэстаўравалі і нанава перапялі. Менавіта тады ў кнізе № 560, як і іншых кнігах Метрыкі ВКЛ, з'явіўся прыклееныя да ўнутранага боку (фарзацу) верхняй накрыўкі вокладкі друкаваны аркуш 1786 г. (арк. [0I]) з інфармацыяй пра гэту апрацоўку кніг Метрыкі ВКЛ: "STANISLAUS AUGUSTUS REX | HÆC | MAGNI DUCATUS LITVANIÆ | ACTA PUBLICA | VICISSITUDINE TEMPORUM | DISPERSA COLLIGI | LACERA INNOVARI | CORROSA TRANSCRIBI | ATQUE EX LOGO SQUALLIDO | IN CONCLAVI ÆDIUM REIPUBLICÆ COLLOCARI | PROVIDENTIA AC BENEFICETIA SUA | FECIT | A. D. M.DCC.LXXXVI. | CANCELLARIATU | ALEXANDRI PRINCIPIS SAPIEHA | PROCANCELLARIATU | JOACHIMI COMITIS CHREPTOWICZ | CURA & LABORE | ADAMI NARUSZEWICZ | MAGNI DUCATUS LITVANIÆ NOTARII ||". Апроч таго, у Кнігу № 560 былі ўстаўлены арк. I—VII і арк. 38. Таксама ў другой палове XVIII ст. на наклейцы да спінкі пераплёту была пазначаная памылковая дата: 1559.

Вядома, што пасля падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст., а менавіта пасля III-га падзелу ў 1795 г., Метрыка ВКЛ праз Гродна і Вільню была вывезена ў Санкт-Пецярбург. Некаторыя

---

[16] Гл. падрабязней: Sułkowska–Kurasiowa I. Metryka Litewska – charakterystyka i dzieje // *Archeion*. T. 65, 1977. S. 91.

[17] Гл.: Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The "Lithuanian Metrica"*... P. A-62.

[18] Wolff, *Senatorowie i dygnitarze*, s. 282; *PSB* XXII, s. 554—561; *Urzędnicy centralni*, Nr. 978, s. 131, 223.

кнігі Метрыкі ВКЛ яшчэ раней, у 1792 г. патрапілі ў сталіцу ВКЛ і адтуль ужо вывозіліся ў Расію[19].

На працягу 1796—1798 гадоў спецыяльная камісія Кіруючага Сенату і Калегіі замежных спраў па аналогіі з Кароннай Метрыкай у Метрыцы ВКЛ вылучыла групу "Кнігі перапісаў" (B.IV)[20]. У канцы XVIII ст. кнігі Метрыкі ВКЛ былі перададзеныя ў III дэпартамент Кіруючага Сенату. Гэтая структура захавалася і пры перагрупоўцы архіўнага комплекса з боку так званай "Экспедыцыі Метрыкі далучаных правінцый", створанай у 1803 г. ў рамках III дэпартамента Сената ў мэтах разбору і апісання дакументаў Метрыкі ды выдачы даведак і рэгістрацыі прыватных юрыдычных актаў дваранства былых ВКЛ і Польшчы. Начальнік Экспедыцыі менаваўся метрыкантам. У далейшым гэтая структура афіцыйна называлася Экспедыцыя Літоўскай Метрыкі[21]. У далейшым рабіліся спробы архіўнага апісання кніг Метрыкі ў практычных мэтах. Выбарачна выкарыстоўваючы рэестры XVIII ст. складаўся "Генеральны вопіс" некаторых аддзелаў Метрыкі, але Кнігі перапісаў не патрапілі ў іх лік[22]. Спробы ўкладання новых вопісаў Метыркі прадпрымаліся ў 1817 г.[23] і 1828 г.

Сярод некалькіх праверак і перагруповак матэрыялаў Метрыкі ў канцы XVIII – першай паловы XIX ст. вылучаецца перасістэматызацыя 1835—1837 гг., калі Камісіяй Кіруючага Сенату кнігі Метрыкі былі падзеленыя на 12 раздзелаў і наша кніга аднесена да Разраду IV "Кнігі перапісаў", а за нашай кнігай замацаваны № 3 гэтага Разраду. Камісія была ўтвораная паводле распараджэння міністра юстыцыі, тайнага радцы Дзімітрыя Васільевіча Дашкава (гады жыцця: 29.XII.1784 – 26.XI.1839; функцыі міністра выконваў:

---

[19] Абставіны гэтай гісторыі гл.: Mienicki R. Archiwa Wielkiego Księstwa Litewskiego // *Pamiętniki VI powszechnego zjazdu historyków polskich w Wilnie 17–20 wrzesnia 1935 r.* T. 1: Referaty. Lwów, 1935. S. 406; Baliulis A. Iš Lietuvos Metrikos knygų ir dokumentų leidimo istorijos… P. 48–49; Kiaupa Z. The Lithuanian Metrica and Lithuanian Nobility at the end of the Eighteenth century // *Lithuanian Historical Studies.* No 1, 1996. P. 82–83; [Прамова У. Пічэты] Першая Ўсебеларуская канфэрэнцыя архівістаў і архіўных працаўнікоў: З пратаколу пасяджэньняў (публікацыя Міхася Шумейкі) // *Спадчына.* 1998, № 6. С. 38; Дубоніс А. Праблемы Літоўскай Метрыкі… С. 19—20.

[20] *Lietuvos Metrika – Lithuanian Metrica – Литовская Метрика. Kn. 5 (1427—1506): Užrašytų knyga 5* / Parengė Egidijus Banionis. Vilnius, 1993. P. 7.

[21] *Российский государственный архив древних актов*: Путеводитель. Т. 4. С. 453.

[22] Банионис Э. Введение // *LM-5*. P. 7.

[23] Подробный перечень, составленный в 1817 году статским советником В. Г. Анастасевичем из реестра, по которому сданы были в 1798 году в ведение Сената дела Метрик Коронных и Великого княжества Литовского // *Книга Посольская Метрики ВКЛ 1545—1572 гг.* Т. 1. Приложение III, с. 327—418.

20.IX.1829 – 14.II.1839)[24]. Сведчаннямі працаў 1835—1837 гг. з’яўляюцца архіўныя паметкі почыркам $VI_{пм}$, зробленыя калежскім асесарам Пятром Бібіным (?), а таксама завяральны запіс на арк. 38. На арк. VII v. П. Бібін пазначыў: “Подъ № 3 Литовскихъ переписей. Тысяча пятьсотъ пятьдесятъ девятого года”. Праўдападобна ў той жа час на тым жа аркушы быў пакінуты запіс: “Перепись границъ, составленная въ 1542 году Ив. Глеб. Корсакомъ, Янамъ Кмитою Соколовичамъ, Олехнамъ Кривцомъ и Миколаемъ Третякамъ”. У 1830-х гадах праца Камісіі грунтавалася на выніках апрацоўкі 1796—1798 гг.

На падставе вопісу 1830-х гадоў метрыкант Станіслаў Людвік Пташыцкі (1853—1933)[25] склаў новы падрабязны інвентар Метрыкі. Пташыцкі пакінуў нязменнай структуру Метрыкі ды ўзнавіў, дзе здолеў, пецярбургскую нумарацыю кніг. Вынікі сваёй працы архівіст апублікаваў у 1887 г. Сам метрыкант наступным чынам праанатаваў кнігу: “1542. Описаніе границъ Литвы съ Ливоніею, составленное Иваномъ Глебовичемъ Корсакомъ и Яномъ Кмитичемъ Соколовича”[26]. Вызначэнне публікуемай намі кнігі як Кнігі перапісаў № 3 было замацавана для далейшых даследчыкаў. Кнігі Метрыкі ВКЛ значыліся ўжо пад літарай А (у адрозненні ад структуры 1796—1798 гг., калі матэрыялы ВКЛ фігуравалі пад літарай В). На новую сістэму ўказваць індэкс “З.А.”, прастаўлены на фарзацы. Такім чынам, паводле Пташыцкага Кніга № 560 мела індэкс IV.A.03., дзе IV – нумар аддзелу (Кнігі перапісаў), А – кнігі Метрыкі ВКЛ, 03 – нумар па ліку ў межах аддзелу.

Але ў той жа год, калі выйшла ў свет кніга С. Пташыцкага, распачалася перавозка Метрыкі ВКЛ у Маскву (адбывалася на працягу 1887—1888 гадоў). З таго часу Маскоўскі архіў Міністэрства юстыцыі стаў месцам захоўвання Метрыкі, у тым ліку і Кнігі № 560. У канцы XIX – пачатку XX ст. тэкст кнігі вывучаўся, пра што сведчаць даследчыя надпісы і падкрэсліванні простым алоўкам, зробленыя почыркам $VII_{нд}$. Варта адзначыць, што ўвогуле у Маскве Метрыка стала адным з найбольш чытаемых архіўных фондаў[27].

---

[24] *Министерство юстиции за сто лет: 1802—1902. Исторический очерк*. СПб., 1902 (рэпрынт: М., 2002). С. 75—84, 388.

[25] Пра дзейнасць і вынікі працы Пташыцкага гл. падрабязней: Bachulska H. Bibliografia prac Stanisława Ptaszyckiego // *Archeion*. 1934, T. 12.

[26] Пташицкий С. Л. *Описаніе книгъ и актовъ Литовской Метрики*. СПб., 1887. С. 161.

[27] Шохин Л. И. *Московский архив министерства юстиции и русская историческая наука: архивисты и историки во второй половине XIX – начале XX века*. М., 1999. С. 275–276.

У 1939 г. матэрыялы Метрыкі ВКЛ былі пастаўлены на ўлік у Цэнтральным Дзяржаўным Архіве Старажытных Актаў СССР (ЦГАДА СССР) як фонд № 389 (“Літоўская метрыка”)[28]. У 1952 г. уведзена агульная валавая нумарацыя кніг і іншых матэрыялаў Метрыкі ВКЛ. Менавіта тады Кніга перапісаў № 3 атрымала № 560 паводле агульнай нумарацыі. Да гэтай перанумарацыі адносіцца архіўны запіс на арк. I: “№ 560 | Ф. 389”. Пасля 1991 г. архіў носіць назву Расійскага Дзяржаўнага Архіва Старажытных Актаў (РГАДА). Рэгістрацыйна-ўліковыя запісы 1930-х гадоў – пачатку XXI ст. (Аркуш выкарыстання дакументаў; Рэгістрацыйны аркуш; штампы праверак) ілюструюць архіўную гісторыю кнігі ў ЦГАДА (РГАДА).

Трымаючыся сучаснай архіўнай нумарацыі ці варта зусім адмаўляцца ад пазначэння кнігі паводле нумарацыі ў рамках разрадаў? Вядомы знаўца і публікатар Метрыкі Эгідыюс Банёніс называў такі падзел штучным[29]. Безумоўна, гэты падзел на разрады (аддзелы) паводле тэматыцы дакументаў досыць умоўны. Але ці магчыма ад яго цалкам адмовіцца з-за недасканаласці? Літоўскі выдаўца Статутаў ВКЛ і Судовых кніг Метрыкі Станисловас Лазутка даў наступны адказ на гэтае пытанне: “Але ж няма дастатковых падставаў і адмовіцца ад такога падзелу. Адмовіцца ад яго азначала б унесці, няхай і ў недасканалую традыцыю, яшчэ большы хаос, перакрэсліць цэлы перыяд у гістарыяграфіі гэтага пытання”[30].

Табліца 1

Эвалюцыя канцылярскай і архіўнай гісторыі Кнігі № 560 Метрыкі ВКЛ (паводле рукапісу Кнігі і іншых архіўных звестак)

| *№* | *Працэдура ці назва дакумента* | *Датыроўка* | *Лакалізацыя* | *Тагачасная нумарацыя* | *Сучасная архіўная крыніца, публікацыя ці апісанне дакумента* | *Заўвагі (почыркі Кнігі № 560 і інш.)* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Палявыя матэрыялы | пасля 20.I.1542 | Мяжа паміж ВКЛ і Лівоні | | | |

[28] У расійскай правапіснай традыцыі слова Метрыка пішацца з малой літары.

[29] Банионис Э. Введение // *LM-5*. P. 8.

[30] *Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 225 (1528—1547): 6-oji Teismų bylų knyga* (XVI a. pabaigos kopija) / Spaudai parengė S. Lazutka, I. Valikonytė ir kt. Vilnius, 1995. P. XI.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | яй | | | |
| | Арыгінальная кніга Метрыкі ВКЛ | 1542 ці пасля 1542 | Вільня, Канцылярыя ВКЛ | | | |
| | Кніга-копія | 1594—1607 | Вільня, Канцылярыя ВКЛ | | РГАДА. Ф. 389, воп. 1, ч. 1. Спр. 560. | почыркі I і II$_{пм}$ |
| | Параўнанне тэкстаў арыгінальнай кнігі і кнігі-копіі | 1607—1621 | Вільня, Канцылярыя ВКЛ | | | інстыгатар Мікалай Мархач-Пузелеўскага, почырк III$_{пм}$ |
| | Рэестр (перадатачны вопіс Льва Сапегі новаму канцлеру ВКЛ Альбрыхту Станіславу Радзівілу): “Regestr ksiąg Metryki Wielki[ego] Ks[ię]stwa Lit[ewskie]g[o]...” | 11.III.1623 | Вільня, Канцылярыя ВКЛ | № 62 (у раздзеле “Za panowania swientej pamięci krola je(go) m(o)s(ci) Zygmunta Augusta”);<br><br>№ 99 (паво | РНБ. Аддзел рукапісаў, «Собрание Дубровского», № 124, арк. 102.<br>Публікацыя: Голенченко Г. Я. Реестр книг Метрики Великого княжества Литовского 1623 г. // *Исследования по истории Литовской Метрики*: Сборник научных трудов. [Ч. 2]. М., 1989. С. 349, 364.<br>Апісанні: Korzeniowski J. Zapiski z rękopisów Cesarskiej Biblioteki Publicznej w Petersbergu i innych bibliotek | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | дле агульнай нумарацыі: Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The “Lithuanian Metrica”*) | petersburskich // *Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce*. T. 11. Kraków, 1910. S. 366; Голенченко Г. Я. Неизвестный реестр Метрики Великого княжества Литовского в собрании П. П. Дубровского // *Книга в Белоруссии: Книговедение, источники, библиография* (Сборник статей). Мн, 1981. С. 27—41; Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The “Lithuanian Metrica”*... P. 13—14, A-29, A-97. | |
| | Праверка кнігі | 1740 | Вільня, Канцылярыя ВКЛ | | | почырк $IV_{пм}$ |
| | Перавозка Метрыкі ВКЛ у Варшаву | да 1747 | Варшава, Каралеўскі архіў, разам з Каронней Метрыкаю ўтварыла Таемны | | | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | архіў | | | |
| | Рэестр (“Inwentarz xiąg Metryki W. X. L. za panowania nayiaśnieyszego króla I. Augusta III...”) | 4.V.1747 | Варшава, Каралеўскі архіў | № 52 | Апісанні: Ptaszycki S. Sumarjusz i inwentarze Metryki Litewskiej // *Archeion*. T. VIII, 1930. S. 38—40; Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The “Lithuanian Metrica”*... P. 15, A-30, A-62. | |
| | Сумарыюш Метрыкі ВКЛ | 1747—1751 | Варшава, Каралеўскі архіў | | AGAD, SumML 2, folio 151. Апісанні: Ptaszycki S. Sumarjusz i inwentarze Metryki Litewskiej. S. 38—40; Jakubowski J. Wiadomości o świeżo odzyskanym z Rosji sumarjuszu Metryki Litewskiej z lat 1747—1751 // *Ateneum Wileńskie*. T. VIII, 1933. S. 215—216; Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The “Lithuanian Metrica”*... P. 15, A-21, A-62. | |
| | Сумарыюш Метрыкі ВКЛ | каля 1760 | Варшава, Каралеўскі архіў | | AGAD, Archiwum Publiczne Potockich, Nr. 18, karta 143. Апісанні: Semkowicz W. *Przewodnik po zbiorze rękopisów wilanowskich* / Red. Piotr Bańkowski. | |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Warszawa: PWN, 1961. S. 44—46; Ptaszycki S. Sumarjusz i inwentarze Metryki Litewskiej. S. 34—37; Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The “Lithuanian Metrica”*... P. 15, A-24, A-62. | |
| | Транслітэрацыя тэксту кнігі лацінскімі літарамі (польскім варыянтам) | 1777—1786 | Варшава, Каралеўскі архіў | | AGAD, “Metryka Litewska, Kn. 213, s. 275—339. Апісанне: Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The “Lithuanian Metrica”*... P. A-62. | (?) почырк $V_{пм}$ |
| | Перасістэматызацыя кніг Метрыкі ВКЛ | 1786 | Варшава, Каралеўскі архіў | | | пад кіраўніцтвам Адама Нарушэвіча |
| | Падзел архіва Рэчы Паспалітай па групах і аддзелах | 1796—1798 | СПб, Камісія Кіруючага Сенату і Калегіі замежных спраў | аддзел: B.IV (Кнігі перапісаў) | | паводле прыкладу Кароннай Метрыкі ў Метрыцы ВКЛ вылучаны аддзел “Кнігі перапісаў” |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вылучэнне аддзелу “Экспедыцыя Метрыкі далучаных правінцый” (у далейшым “Экспедыцыя Літоўскай Метрыкі”) | 1803 | СПб, III дэпартамент Кіруючага Сенату | | | |
| | Перасістэматызацыя Метрыкі ВКЛ | 1835—1837 | СПб, III дэпартамент Кіруючага Сенату | Аддзел: Кніга перапісаў № 3 (3.А.) | | Камісій Ўрадавага Сенату, почырк $VI_{пм}$ (Пётр Бібін) |
| | Рэестр С. Пташыцкага | 1887 | СПб, III дэпартамент Кіруючага Сенату | IV.A. 03. (Кніга перапісаў № 3) | Пташицкий С. Л. *Описаніе книгъ и актовъ Литовской Метрики*. СПб., 1887. С. 161. | |
| | Перавозка Метрыкі ВКЛ у Маскву | 1887—1888 | Масква, Маскоўскі архіў Міністэрства юстыцыі (МАМЮ) | | | |
| | Пастаноўка на ўлік у ЦГАДА як фонд № 389 | 1939 | Масква, ЦГАДА | Фонд № 389 | РГАДА. Ф. 389, оп. 1, д. 560 | |
| | Увядзенне валавой | 1952 | Масква, | Кніг № 56 | РГАДА. Ф. 389, оп. 1, д. 560. | сучасная |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | нумарацыі кніг Метыркі ВКЛ | | ЦГАДА | 0 | *Российский государственный архив древних актов*: Путеводитель: В 4 т. Т. 4 / Составитель Ю. М. Эскин. М., 1999. С. 61—63. | фаліяцыя чарнілами |

Сучасная гісторыя вывучэння Кніга № 560 не вельмі багатая. Знаёмства з “Аркушам выкарыстання дакументаў”, падклееным да першай старонкі фарзацу, паказвае, што ў другой палове XX – пачатку XXI ст. з кнігай знаёміліся наступныя даследчыкі і архівісты: Канстанцінас Яблонскіс (1946 г.), С. Кірыкаў (1955 г.), Пінкус (1955 г.), І. Шакера (1957 г.), Беклямішава (1957, 1959 г.), Якаўлеў (1984 г.), Алег Дзярновіч (2003 г.).

Але публікаваліся матэрыялы Кнігі № 560 вельмі фрагментальна. Інфармацыю кнігі пра адзін з “Барысавых” камянёў у рэчышчы Дзвіны аналізаваў Васіль Варонін[31], які змясціў у сваёй публікацыі таксама кароткую цытату з Кнігі № 560 паводле мікрафільма ў НГАБ (арк. 3). У кантэксце ўзаемаадносін ВКЛ і Лівоніі Кніга № 560 разглядалася аўтарам гэтага выдання – тады гэта было зробена на ўзроўні рэестру дакументаў[32]. Праблематыка юрыдычнай працэдуры ўсталявання дзяржаўнай мяжы паводле матэрыялаў Кнігі № 560 агучвалася на міжнароднай канферэнцыі “Першы Літоўскі Статут і яго эпоха”, якая адбылася 15—16 верасня 2004 г. у Віленскім універсітэце. У далейшым гэтая тэма рэалізавалася ў публікацыі[33], дзе прыводзіліся цытаты з арк. 6, 6 v., 7, 7 v., 10 v., 14—14 v. Наперадзе яшчэ чакаецца выданне працы пра працэс усталявання дзяржаўнай мяжы паміж ВКЛ і Лівоніяй, дзе аналіз інфармацыі з Кінгі № 560 знойдзе належнае месца.

## 2. Знешнія прыкметы рукапісу

[31] Варонін В. А. Звесткі пра Барысаў камень з першай паловы XVI ст. // *Гісторычна-археалагічны зборнік*. № 15. Мн., 2000. С. 126—127.

[32] Дзярновіч А. І. *“…in nostra Livonia”. Дакументальныя крыніцы па гісторыі палітычных адносінаў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Лівоніяй у канцы XV – першай палове XVI ст.: Сістэматызацыя і актавы аналіз.* Т. I. Мн., 2003. С. 209—210.

[33] Дзярновіч А. Выкарыстанне працэдурных нормаў І-га Статута Вялікага Княства Літоўскага пад час дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы ВКЛ з Лівоніяй (паводле матэрыялаў Кнігі Метрыкі ВКЛ № 560) // *Pirmasis Lietuvos Statutas ir epocha*: straipsnių rinkinys / Vilniaus universitetas [sudarė Irena Valikonytė ir Lirija Steponavičienė]. Vilnius, 2005. P. 243—248.

Кніга Метрыкі № 560 уяўляе сабой копію, створанаю ў канцы XVI – пачатку XVII ст. Верагодна, кніга была перапісаная ў канцы XVI ст. – на карысць гэтага меркавання сведчыць аналіз знешніх прыкмет рукапісу кнігі.

Накрыўкі <u>пераплёту</u> (аправы) выраблены з кардону і абцягнуты скурай цёмна-карычневага колеру, аздоблены рамкамі з расліннага арнаменту. Памеры накрывак: 20 х 31,5 х 0,3 см. Месцамі, асабліва па краях, скура пацёртая. Накрыўкі выходзяць за блок на 5—6 мм. На знешніх вуглах накрывак захаваліся сляды накладак. Гэта знешнія вуглы на пярэдняй накрыўцы – верхняя правая і ніжняя правая, на задняй накрыўцы – верхні левы і ніжні левы. Паводле прыкладаў іншых кніг Метрыкі ВКЛ, да прыкладу Кнігі № 43[34], вядома, што такія накладкі былі пакрытыя пазалочанай фарбай. Арнаментальныя рамкі на абодвух накрыўках выкананы тэхнікай ціснення ў выглядзе накатных дарожак. Матыў арнаменту – раслінны. Шырыня арнаментальнай рамкі – 2 см. Арнаментальныя рамкі знаходзяцца ля самых краёў накрывак. Гэта даволі стандартны пераплёт для кніг Метрыкі ВКЛ, перапісаных у канцы XVI – пачатку XVII ст., вядомы ў іншых, ужо апублікаваных кнігах Метрыкі – № 43[35], № 523[36].

Таўшчыня спінкі пераплёту – 1,5 см. Карашок перацягнуты пяццю скобамі-прашыўкамі. Аркушы Кнігі № 560 ў ніжняй яе частцы двойчы прашытыя чырвоным ядвабным матузком, змацаваным на апошнім аркушы накладною пячаткаю І Аддзялення ІІІ Дэпартамента Кіруючага Сенату з чырвонага чургуча[37]. Адтуліны для матузка знаходзяцца на адлегласці 6 см і 10,5 см ад ніжняга зрэзу блока кнігі.

На спінцы захаваліся 3 <u>наклейкі</u> (адна захавалася часткова). Наклейкі маюць жоўта-зялёны колер і пакрытыя глянцам; надпісы выціснутыя пазалотай. Гэтыя наклейкі наносіліся на спінкі пераплёту кніг Метрыкі ВКЛ у другой палове XVIII ст. падчас рэстаўрацыі кніг. Увядзем умоўную нумарацыю гэтых наклеек зверху ўніз (№№ 1—3). Іх памеры і змест адлюстраваны ў Табліцы 2.

Табліца 2. Памер і змест надпісаў наклеек спінкі Кнігі № 560

| *Нумар наклейкі* | *Памер наклейкі* | *Змест надпісаў* |
|---|---|---|

[34] *Метрыка-43,* с. 7.
[35] *Метрыка-43*, с. 8.
[36] *Метрыка-523*, с. 8.
[37] Гл. прыклад: *Метрыка-43*, с. 7, 38, іл. 9.

| | | |
|---|---|---|
| 1 | 1,5 x 4,4 см | ACTA<br>MAG.<br>DUC.<br>LITV. |
| 2 | 1,5 x 3 см | ANNO<br>1559[38] |
| 3 | Захавалася фрагментарна | EG<br>IGI<br>UGU[39] |

На спінцы пераплёту ў другой палове XVIII ст. была пазначана памылковая дата – 1559 г. Памылка была выпраўлена ўжо Станіславам Пташыцкім.

На спінцы таксама бачны сляды яшчэ адной папяровай наклейкі. Вядома, што папяровыя наклейкі з надпісам, выкананым друкарскім спосабам, замацоўваліся ў 1887 г. у Санкт-Пецярбургу[40], трэба меркаваць, перад перавозам Метрыкі ВКЛ у Маскоўскі архіў Міністэрства юстыцыі.

Памер аркушаў (паўаркушаў паперы) у кніжным блоку: 19,5 x 30 см. Відавочна, блок быў абрэзаны, падобна, падчас рэстаўрацыі кнігі ў другой палове XVIII ст. Агульная колькасць аркушаў (без фарзацных і архіўных аркушаў выкарыстання) 45: [I]—[VII] + 1—37 + [38]. Першапачатковымі з'яўляюцца аркушы 1—37, на якіх ўласна і знаходзіцца тэкст Кнігі; у апошняй чвэрці XVIII ст. (вызначына па філігранях) былі падклееныя аркушы [I]—[VII] і [38]. На некаторых з гэтых пазнейшых аркушах ([VII v.], [38]) утрымліваюцца толькі завяральныя запісы XIX ст. астатнія аркушы XVIII ст. чыстыя ад запісаў. Сярод першапачатковых аркушаў кнігі-копіі асноўны тэкст адсутнічае толькі на арк. 19—19 v. і 37 v. Але на арк. 19 маецца завяральны запіс М. Пузялеўскага (пачатак XVII ст.), на 37 v. – паметка 1740 г. Усе тры аркушы перакрэсленыя. У 1786 г. да ўнутранага боку верхняй крышкі вокладкі кнігі [0I] прыклеены акруш з загалоўкам да кнігі-копіі на лацінскай мове, які выкананы друкарскім спосабам і маецца ў іншых кнігах Метрыкі ВКЛ. Памеры гэтага аркуша: 16,4 x 21,5 см. Аркуш выкарыстання («Лист использования документов») падклееены да фарзацу верхняй накрыўкі; рэгістрацыйны архіўны аркуш падклееены да фарзацу ніжняй накрыўкі.

---

[38] Лічбы размешчаны вертыкальна.

[39] Поўны тэкст мусіў выглядаць наступным чынам: REGNANTE<br>SIGISMUND.<br>AUGUST.

[40] *Метрыка-523*, с. 9.

Рукапіс in folio (аркушы складзены адзін раз у два паўаркушы)[41]. У блоку кнігі вылучаюцца 8 сшыткаў (тут касая рыска / пазначае лінію сшыўкі ніткамі аркушаў сшытка на згібу):

1) арк. [0I]—[I] / арк. [II]—[III]; арк. [0I] фарзацны – падклеены да верхняй накрыўкі;

2) арк. [IV]—[V] / арк. [VI]—[VII];

3) арк. 1—2 / арк. 3—4;

4) арк. 5—6;

5) арк. 7—10 / арк. 11—14;

6) арк. 15—18 / арк. 19—22;

7) арк. 23—26 / арк. 27—30;

8) арк. 31—34 / арк. 35—37.

Арк. [38] падклеены асобна. Нумарацыя сшыткаў у кнізе адсутнічае.

На паперы рукапісу маюцца два тыпы філіграняў "Панна" (якой заўжды на суседнім паўаркушы паперы спадарожнічае надпіс "Schweidniz") і "Сякера". "Панна" ўяўляе сабой выяву Божае Маці з немаўляткам на адной руцэ і скіпетрам у другой, на іхных галовах кароны. Вакол усёй паставы сімвалічны німб у выглядзе ззяння сонечных прамянёў. Паводле альбома Эдмундаса Лаўцявічуса аналагічная філігрань датуецца 1779—1780 гг.[42] Падобная ж філігрань (пад назваю "Ікона") прысутнічае таксама ў альбоме Арэста Мацюка, які датуе яе 1774 г.[43] Філігрань "Сякера" ўяўляе сабой выяву баявой сякеры на тарчы. У выпадку з Кнігай № 560 тарча належыць да так званага выразнога ці нямецкага тыпу. Філіграні з асноўным выяўленчым элементам сякераю сустракаюцца вельмі часта на паперы кніг-копій Метрыкі ВКЛ канца XVI – пачатку XVII ст. Але філігрань "Сякера" ў Кнізе № 560 мае адну характэрную адметнасць – тарча ў гэтым выпадку ўвенчана каронаю. Э. Лаўцявічус адносіць падобныя варыянты філіграняў да 1567—1584 гг.[44], падобныя варыянты вядомы таксама сярод польскіх (датуюцца 1545—1583 гг.)[45] і ўкраінскіх архіўных

---

[41] Тут паняцце аркуша паперы іншае, чым архіўны аркуш кнігі.

[42] Laucevičius E. *Popierius Lietuvoje XV—XVIII a. Atlasas*. Vilnius, 1967. P. 346, № 2482; Laucevičius E. *Popierius Lietuvoje XV—XVIII a.* Vilnius, 1967. P. 209.

[43] Мацюк О. Я. *Філіграні архівних документів України XVIII—XX ст.* Київ, 1992. № 134, с. 91, 330, 331.

[44] Laucevičius E. *Popierius Lietuvoje XV—XVIII a. Atlasas*. P. 228, № 1653—1669.

[45] Siniarska-Czaplicka J. *Filigrany papierni położonych na obszarze Rzeczypospolitej Polskiej od początku XVI do połowy XVIII wieku*. Wrocław, Warszawa, Kraków, 1959. Tabl. CXCIV, Nr. 1060—1064. Аўтарка мяркуе, што

матэрыялаў[46]. Усё ж поўнага аналага філіграні з Кнігі № 560 у апублікаваных альбомах не выяўлена – унікальнай з’яўляецца менавіта карона.

Названыя тыпы філіграняў размеркаваныя па наступных пластах паперы:

1a) “Панна”: [I], [III], [IV], [VI], [38];

1b) надпіс “Schweidniz”: [II], [V], [VII];

2) “Сякера”: 1, 3, 5, 7, 11, 12, 13, 16, 19, 20, 22, 24, 25, 27, 30, 32, 35, 36.

Такім чынам, філігрань “Панна” і спадарожны ёй надпіс “Schweidniz” размешчаныя на аркушах паперы, прымацаваных да Кнігі № 560 падчас рэстаўрацыі перад 1786 г. Філігрань “Сякера” ўтрымліваецца на першапачатковых аркушах паперы кнігі-копіі канца XVI ст.

Рукапіс захаваўся добра, дробныя пашкоджанні некаторых аркушаў (1, 2, 3, 4, 5, 36) не нанеслі стратаў тэксту. Арк. 37 v. рэстаўраваны ўнізе злева праз накладанне паперы. На арк. 27 справа ў верхняга радка маецца чарнільная пляма.

Сляды наколаў (для разліноўкі і для ліній, што складаюць унутранае поле тэксту) не сустракаюцца. Найчасцей на аркушах змешчана па 21—23 радкоў, але сустракаецца таксама 18—19 радкоў (арк. 5 v., 8, 37) і 26—27 радкоў (арк. 26, 33, 35). Тэкст мае выразы абзацавы падзел. Адлегласць паміж абзацамі 1,5—2 інтэрвалы. На арк. 12 v., 13, 13 v., 14 аднародная інфармацыя пададзена ў выглядзе табліцаў з 3—4 калонкамі, паміж якімі прастаўлены прочыркі.

Увесь асноўны тэкст (у гэтае паняцце не ўваходзяць запісы) напісаны адным почыркам, што атрымаў умоўнае пазначэнне як Почырк I. З улікам почыркаў запісаў, вылучаецца 7 наступных почыркаў:

I – асноўны почырк, стварэнне Кнігі-копіі № 560 Метрыкі ВКЛ, канец XVI – пачатак XVII ст., цёмна-карычневыя чарнілы; адметнасць – выкарыстанне літары **ӕ**; гэтым жа почыркам зроблена старажытная кірылічная фаліяцыя і напісана частка кустодаў (там, дзе яны маюцца), але ўжо пазней, пасля стварэння кнігі-копіі, і светла-карычневымі чарнілами;

$II_{пм}$ – почырк правак і паметаў, некаторыя кустоды, канец XVI – пачатак XVII ст. (?), карычневыя чарнілы; адметнасць – выкарыстанне літары **ѧ**;

папера з падобнымі філігранямі выраблялася на Люблінскім папяровым млыне (S. 19).

[46] Каманін І., Вітвіцька О. *Водяні знаки на папері українських документів XVI і XVII ст. (1566—1651)*. Київ, 1923. № 275—279.

$III_{пм}$ – почырк паметак інстыгатара ВКЛ Мікалая Пузялеўскага, 1607—1621 гг., светла-карычневыя чарнілы;

$IV_{пм}$ – почырк праверкі 1740 г., карычневыя чарнілы;

$V_{пм}$ – почырк канцылярска-архіўных паметак XVIII ст. (1747—1794) па-польску, варшаўскі Таемны архіў, светла-карычневыя чарнілы;

$VI_{пм}$ – почырк архіўных паметак, 1835—1837 гг., праца Камісіі Кіруючага Сенату па ўпарадкаванню кніг Метрыкі ВКЛ (калежскі асэсар Пётр Бібін ?), светла-карычневыя чарнілы.

$VII_{нд}$ – даследчыя надпісы і падкрэсліванні, XIX — пачатку XX ст., просты аловак.

Сучасная фаліяцыя РДАСА (XX ст.) выкананая чарнілаамі.

Такім чынам, Кніга № 560 цалкам была перапісаная адным перапісчыкам, якому належыць почырк I і імя якога нам невядомае. Тэкст рукапісу напісаны беларускім скорапісам, які характэрны для апошняй трэці XVI – першай чвэрці XVII ст. Пісьмо мае сярэдні тэмп і памер. Практычна цалкам адстунічае нахіл управа, выяўляецца тэндэнцыя нахіла ўлева. Калі літара складаецца з больш чым двух элементаў, то найчасцей гэтыя элементы пішуцца з адрывамі пяра. Варыятыўнасць у напісанні літараў невялікая. Мачты літараў **г**, **и**, **к**, **п**, **т**, **ч**, перакладзіны літараў **л**, **м** маюць канцавыя рысачкі ўправа. Звязанае напісанне літараў у радку з надрадковымі сустракаецца рэдка. У якасці вынасных цітлападобных выкарыстоўваюцца літары **д**, **з**, **м**, **р**, **х**, **ц**.

Пасля перапіскі кнігі яе тэкст спраўдзіў рэдактар кнігі, якому належыць почырк $II_{пм}$. Што датычыць гэтага почырку, то тут мы можам выказаць меркаванне адносна яго аўтарства. Паводле почырку і аўтографаў іншых кніг Метрыкі ВКЛ[47] аўтарам почырку, даволі манернага, мог быць дзяк і пісар Адам Мацеевіч Пашкевіч, адзін з кіраўнікоў перапіскі Метрыкі ВКЛ у канцы XVI – пачатку XVII ст.[48] Звычайна Адам Пашкевіч ўпісваў загалоўкі ва ўжо перапісаны тэкст кнігі[49], часам перапісваў асобныя дакументы[50]. Спецыфіка ж Кнігі № 560 у тым, што тут не вылучаюцца асобныя

---

[47] *Метрыка-43*, іл. 5, с. 34; *Метрыка Вялікага княства Літоўскага: Кніга 44: Кніга запісаў 44 (1559—1566)* / Падрыхтаваў А. І. Груша. Мн., 2001. Фота 2, с. 143 (пазначаны як почырк II); *Метрыка-523*, фота 2, с. 174 (пазначаны як почырк I).

[48] Звестак пра Адама Пашкевіча даволі мала, яны адсутнічаюць у выдомай працы пра прадстаўнікоў цэнтральнай адміністрацыі ВКЛ (*Urzędnicy centralni*). Крыху інфармацыі гл.: *Метрыка-44*, с. XV, спас. 8.

[49] *Метрыка-43*, с. 14; *Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 46 (1562—1565). Кніга запісаў 46 (Копія канца XVI ст.)* / Падрыхтаваў В. С. Мянжынскі. Мн., 2006. С. 22.

[50] *Метрыка-44*, с. XIV—XV; *Метрыка-523*, с. 11.

дакументы, таму загалоўкі да іх не рабіліся. Запісаў почыркам $\text{II}_{\text{пм}}$ даволі мала, таму пэўна сцвярджаць пра ягоную прыналежнасць даволі складана.

Найдаўнейшая <u>пагінацыя</u> (без адзначэнне адваротаў аркушаў) была прастаўленая падчас стварэння кнігі-копіі ў канцы XVI – пачатку XVII ст. Нумарацыя зроблена кірылічнымі літарамі (усе пад цітламі), на першым аркушы дабаўлена слова «Листъ». Почырк пагінацыі адпавядае Почырку I, але выкарыстаны светла-карычневыя чарнілы (у Почырку I – цёмна-карычневыя чарнілы). Пагінацыя была нанесена пры праверцы кнігі-копіі ўжо пасля нанясення асноўнага тэксту. У 1835—1837 гг. супрацоўнік Камісіі Кіруючага Сенату (Пётр Бібін ?) таксама праставіў на арк. 37 нумар. Гэта было звязана з тым, што арк. 37 з'яўляецца апошнім у кнізе-копіі канца XVI – пачатку XVII ст., пра што паведляе таксама завяральны запіс з тагачаснага ўпарадкавання Метрыкі ВКЛ. У 1950-х гадах у ЦГАДА алоўкам была прастаўлена пагінацыя ўсіх старонак, на якіх размешчаны асноўны тэкст (папярэднія пустыя аркушы і аркуш з завяральным тэкстам не ўлічваліся). Адвароты аркушаў пазначныя скарачэннем "об." ("оборот"). Найдаўнейшая пагінацыя размешчаная на аркушах уверсе справа; пагінацыя XX ст. (РГАДА) прастаўлена правей і вышэй – у самых кутах аркушаў. Падчас падрыхтоўкі Кнігі № 560 да выдання археограф увёў новую ўмоўную пагінацыю з улікам даўняй, але з дабаўленем нумарацыю іншых аркушаў, якія папярэднічаюць асноўнаму тэксту, а таксама знаходзяцца па-за ім. Папярэднія аркушы маюць нумарацыю рымскімі лічбамі, пры гэтым фарзацны аркуш атрымаў нумар [0I]. Аркушы па-за асноўным тэкстам нумараваны арабскімі лічбамі і працягваюць агульную нумарацыю. Уся ўмоўная нумарацыя заключаная ў квадратныя дужкі, у адрозненні ад нумарацыі аркушаў, якая вядзецца з даўніх часоў. Для пазначэння адваротаў аркушаў археограф увёў міжнароднае лацінскае скарачэнне "v." ("verso").

Звесткі па пагінацыях ды размяшчэнні філіграняў і тэксту сістэматызаваны ў Табліцы 3.

Табліца 3. Суадносіны пагінацый, размяшчэння філіграняў і зместу тэксту

| *Пагінацыя выдання (2006 г.)* | *Пагінацыя 1950-х гадоў (ЦГАДА/ РГАДА)* | *Пагінацыя 1835—1837 г. (Камісія Кіруючаг* | *Пагінацыя кірылічная канца XVI –* | *Філіграні* | *Змест тэксту* |
|---|---|---|---|---|---|

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | *а Сенату)* | *пачатку XVII ст. (Канцыля рыя ВКЛ)* | | |
| *№ 4* | *№ 3* | *№ 2* | *№ 1* | | |
| [0I] | | | | | Прыклеены на фарзац друкаваны аркуш 1786 г. |
| [I] | | | | “Панна” | Архіўны запіс XX ст.: № 560 Ф. 389 |
| [I v.] | | | | | |
| [II] | | | | “Schweid niz” (чытаецца злева направа на verso) | |
| [II v.] | | | | | |
| [III] | | | | “Панна” | |
| [III v.] | | | | | |
| [IV] | | | | “Панна” | |
| [IV v.] | | | | | |
| [V] | | | | “Schweid niz” (чытаецца злева направа на verso) | |
| [V v.] | | | | | |
| [VI] | | | | “Панна” | |
| [VI v.] | | | | | |
| [VII] | | | | “Schweid niz” (чытаецца злева направа на verso) | |
| [VII v.] | | | | | Запісы ўдзельніка ў Камісіі Сената, 1835— |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1837 гг. |
| 1 | 1 | | Листъ 1 | “Сякера” | Асноўны тэкст |
| 1 v. | 1 об. | | | (перакуленая) | Асноўны тэкст |
| 2 | 2 | | 2 | | Асноўны тэкст |
| 2 v. | 2 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 3 | 3 | | 3 | “Сякера” | Асноўны тэкст |
| 3 v. | 3 об. | | | (перакуленая) | Асноўны тэкст |
| 4 | 4 | | 4 | | Асноўны тэкст |
| 4 v. | 4 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 5 | 5 | | 5 | “Сякера” | Асноўны тэкст |
| 5 v. | 5 об. | | | (перакуленая) | Асноўны тэкст |
| 6 | 6 | | 6 | | Асноўны тэкст |
| 6 v. | 6 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 7 | 7 | | 7 | “Сякера” | Асноўны тэкст |
| 7 v. | 7 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 8 | 8 | | 8 | | Асноўны тэкст |
| 8 v. | 8 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 9 | 9 | | 9 | | Асноўны тэкст |
| 9 v. | 9 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 10 | 10 | | 10 | | Асноўны тэкст |
| 10 v. | 10 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 11 | 11 | | 11 | “Сякера” | Асноўны |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | тэкст |
| 11 v. | 11 об. | | | (перакуленая) | Асноўны тэкст |
| 12 | 12 | | 12 | “Сякера” | Асноўны тэкст |
| 12 v. | 12 об. | | | (перакуленая) | Асноўны тэкст |
| 13 | 13 | | 13 | “Сякера” | Асноўны тэкст |
| 13 v. | 13 об. | | | (перакуленая) | Асноўны тэкст |
| 14 | 14 | | 14 | | Асноўны тэкст |
| 14 v. | 14 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 15 | 15 | | 15 | | Асноўны тэкст |
| 15 v. | 15 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 16 | 16 | | 16 | “Сякера” | Асноўны тэкст |
| 16 v. | 16 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 17 | 17 | | 17 | | Асноўны тэкст |
| 17 v. | 17 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 18 | 18 | | 18 | | Асноўны тэкст |
| 18 v. | 18 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 19 | 19 | | 19 | “Сякера” | Завяральны запіс М. Пузелеўскага (пач. XVII ст.) |
| 19 v. | | | | (перакуленая) | |
| 20 | 20 | | 20 | “Сякера” | Асноўны тэкст |
| 20 v. | 20 об. | | | (перакуленая) | Асноўны тэкст |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 21 | 21 | | 21 | | Асноўны тэкст |
| 21 v. | 21 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 22 | 22 | | 22 | "Сякера" | Асноўны тэкст |
| 22 v. | 22 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 23 | 23 | | 23 | | Асноўны тэкст |
| 23 v. | 23 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 24 | 24 | | 24 | "Сякера" | Асноўны тэкст |
| 24 v. | 24 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 25 | 25 | | 25 | "Сякера" | Асноўны тэкст |
| 25 v. | 25 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 26 | 26 | | 26 | | Асноўны тэкст |
| 26 v. | 26 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 27 | 27 | | 27 | "Сякера" (перакуленая) | Асноўны тэкст |
| 27 v. | 27 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 28 | 28 | | 28 | | Асноўны тэкст |
| 28 v. | 28 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 29 | 29 | | 29 | | Асноўны тэкст |
| 29 v. | 29 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 30 | 30 | | 30 | "Сякера" | Асноўны тэкст |
| 30 v. | 30 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 31 | 31 | | 31 | | Асноўны тэкст |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 31 v. | 31 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 32 | 32 | | 32 | “Сякера” (перакуленая) | Асноўны тэкст |
| 32 v. | 32 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 33 | 33 | | 33 | | Асноўны тэкст |
| 33 v. | 33 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 34 | 34 | | 34 | | Асноўны тэкст |
| 34 v. | 34 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 35 | 35 | | 35 | “Сякера” | Асноўны тэкст |
| 35 v. | 35 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 36 | 36 | | 36 | “Сякера” | Асноўны тэкст |
| 36 v. | 36 об. | | | | Асноўны тэкст |
| 37 | 37 | 37 | 37 | | Асноўны тэкст + Завяральны запіс Пузелеўскага |
| 37 v. | | | | | Перакрэслены, паметка 1740 г. |
| [38] | | | | “Панна” | Завяральны запіс Камісіі Сената, 1835—1837 гг. |
| [38 v.] | | | | | |

<u>Запісы, якія маюць адносіны да гісторыі рукапісу</u>, вылучаюцца ў наступныя групы:

I – запісы (праўкі і паметы) часу стварэння рукапісу (канец XVI – пачатак XVII ст., кірылічныя праўкі, почырк II$_{\text{пм}}$);

II – запісы (паметкі) XVII—XVIII ст. (паметкі Пузелеўскага і інш. службовых асобаў польскай мовай, почыркі III$_{\text{пм}}$, IV$_{\text{пм}}$, V$_{\text{пм}}$);

III – запісы (паметы і надпісы) XIX – пачатку XX ст. (почыркі VI$_{\text{пм}}$, VII$_{\text{нд}}$);

IV – запісы другой паловы XX – пачатку XXI ст.

**I.**

**1.** *На арк. 7 v. унізе справа кустод поч. II$_{\text{пм}}$ чрнл. (кан. XVI – пач. XVII ст.):*

а часть

**2.** *На арк. 14 v. унізе справа кустод поч. II$_{\text{пм}}$ чрнл. (кан. XVI – пач. XVII ст.):*

И тӱтъ

**3.** *На арк. 18 v. у ніжнім абзацы поч. II$_{\text{пм}}$ чрнл. (кан. XVI – пач. XVII ст.) дапісана над радком:*

сѧ

**3.** *На арк. 35 злева на маргінэзе каля другога радка знізу поч. II$_{\text{пм}}$ чрнл. (кан. XVI – пач. XVII ст.):*

топоро҇в

**II.**

**1.** *На арк. [0I] (падклееены да фарзацу аркуш лацінскага тэкста 1789 г.) у куце ўверсе злева чрнл. (1880-я гады ?):*

№ 3.А.

**2.** *На арк. 1 уверсе злева поч. V$_{\text{пм}}$ чрнл. (XVIII ст.):*

52

**3.** *Ніжэй запісу № 2 на два інтэрвалы, па цэнтру поч. V$_{\text{пм}}$ чрнл. (XVIII ст.):*

Carta Pierwsza

**4.** *На арк. 1 v. справа на маргінэзе ў цэнтры поч. V$_{\text{пм}}$ чрнл. (XVIII ст.):*

Dryswiata

**5.** *На арк. 2 у ніжняй трэці злева на маргінэзе поч. V$_{\text{пм}}$ чрнл. (XVIII ст.):*

[…][51]

**6.** *На арк. 2 v. справа на маргінэзе ўверсе поч. V$_{\text{пм}}$ чрнл. (XVIII ст.):*

---

[51] Неразборліва (5—6 літар).

Brasław

**7**. *На арк. 3* v. *справа на маргінэзе ў цэнтры поч.* $V_{пм}$ *чрнл. (XVIII ст.):*

Ziemia Połocka

**8.** *Ніжэй запісу № 7 на тры інтэрвалы справа на маргінэзе поч.* $V_{пм}$ *чрнл. (XVIII ст.):*

Połock

**9.** *На арк. 4 справа на маргінэзе ў цэнтры поч.* $V_{пм}$ *чрнл. (XVIII ст.):*

Oswey

**10.** *На арк. 5 у самым версе злева надпісана над радком поч.* $V_{пм}$ *чрнл. (XVIII ст.):*

А под eto стороне us

**11.** *На арк. 5* v. *злева на маргінэзе ў цэнтры поч.* $V_{пм}$ *чрнл. (XVIII ст.):*

NB

**12.** *На арк. 15 уверсе злева поч.* $V_{пм}$ *чрнл. (XVIII ст.):*

Z[iemia]. Bracław|ska

**13.** *На арк. 15* v. *злева на маргінэзе ў ніжняй трэці поч.* $V_{пм}$ *чрнл. (XVIII ст.):*

Hłuboczek

**14.** *На арк. 18* v. *унізе справа поч.* $III_{пм}$ *(інстыгатара М. Пузялеўскага) чрнл. (1607—1621 гг.):*

Koniec

**15.** *На арк. 19 у сярэдзіне аркуша і на сярэдзіне радка поч.* $III_{пм}$ *(інстыгатара М. Пузялеўскага) чрнл. (1607—1621 гг.):*

Carta goła. Instigator

**16.** *На арк. 37 унізе справа поч.* $III_{пм}$ *(інстыгатара М. Пузялеўскага) чрнл. (1607—1621 гг.):*

Mikolay Puzeliewsky | Instigator W(ielkiego) K(sięstwa) Lit(ewskiego)

**17.** *На арк. 37* v. *у самым нізе па сярэдзіне радка поч.* $III_{пм}$ *чрнл. (1740 г.)*

1740 fuit

**III.**

**1.** *На арк. [VII* v.*] у верхняй частцы поч.* $VI_{пм}$ *(калежскага асесара П. Бібіна) тонкім алоўкам (1835—1837 гг.):*

Подъ № 3 Литовскихъ переписей. | Тысяча пятьсотъ пятьдесятъ девятого года. |

**2.** *Ніжэй запіса № 1 праз інтэрвал іншым поч. тоўстым алоўкам (перш. пал. XIX ст.):*

Перепись границъ, составленная въ 1542 году | Ив. Глеб. Корсакомъ, Янамъ Кмитою Соколо|вичамъ, Олехнамъ Кривцомъ и Миколаемъ | Третякамъ. |

**3.** *На арк. 1 уверсе па цэнтру поч.* $VII_{нд}$ *чрнл. (XIX – пач. XX ст.):*

по 1542

**4.** *Правей запісу № 1 поч.* $VII_{нд}$ *чрнл. (XIX – пач. XX ст.):*

[…][52]

**5.** *На арк. 6 у ніжняй трэці злева на маргінэзе поч.* $VII_{нд}$ *алоўкам (XIX – пач. XX ст.):*

1542

**6.** *На арк. 11 справа на маргінэзе ў цэнтры алоўкам (XIX – пач. XX ст.):*

1542

**7.** *На арк. 12* v. *у верхняй трэці справа на маргінэзе і пад радком поч.* $VII_{нд}$ *алоўкам (XIX – пач. XX ст.):*

за нимъ следуютъ имена забранныхъ людей

**8.** *На арк. 37 уверсе справа поч.* $VI_{пм}$ *(калежскага асесара П. Бібіна) чрнл. (1835—1837 гг.) прастаўлена пагінацыя:*

37

**9.** *На арк. 38 у верхняй палове аркуша поч.* $VI_{пм}$ *(калежскага асесара П. Бібіна) чрнл. (1835—1837 гг.):*

Въ сей книгѣ номерованныхъ и запечатан|ныхъ листовъ 37 тридцать семь, за подпи|сомъ Комисіи учрежденной Господиномъ Ми|нистромъ Юстиціи для разсмотрѣнія и при|вѣдѣнія въ порядокъ Метрическихъ книгъ на|ходящихся въ Польской Метрикѣ, состоя|щей при 3м Департаментѣ Правитель|ствующаго Сената. |

*Іншымі поч. і чрнл.* Оберъ Прокуроръ Владиславлевъ |

*Ніжэй іншымі поч. і чрнл.* Статскій Совѣтникъ Г. Пиринъ *подпіс неразборлівы* |

*Ніжэй іншымі поч. і чрнл.* Коллежскій Ассесоръ Петръ Бибинъ ||

**IV.**

**1.** *"Аркуш выкарыстання дакументаў" падклеены да арк. [0I] – фарзацнага аркуша верхняй накрыўкі, рознымі поч. і чрнл. (др. пал. XX – пач. XXI ст.):*

23.XII.1946 –25.XII Яблонский |

29.IX.55 – 10.X.55 С. Кириков |

26.X.55 Пинкус |

---

[52] Неразборліва (8—10 літар).

12.II.57 – 13.IV.57 И. Шекера |
7.X.57 – на микрофильмы |
21.XI.57 Беклемишева |
23.III.59 Беклемишева |
27.VIII.84 Яковлев |
17.XII.03 Дернович |
**2.** *На арк. [I] іншым поч., алоўкам (XX ст., 1952 ?):*
№ 560 | Ф. 389

**3.** *Рэгістрацыйны аркуш РГАДА (ЦГАДА), аркуш не пранумараваны, падклеены да фарзацнага аркуша ніжняй накрыўкі, чрнл. штамп, графы (падкрэсленыя) запоўнены інш. поч. і чрнл. (1939—1957 гг.):*

Ц Г А Д А *падкрэсленне ў штампе* |
ОФЦУ (РСО) |
ФОНД № 389, Литовская метрика *графа запоўнена рукою* |
в настоящем ________ № 560 *графа запоўнена рукою* |
пронумеровано листов ______ 37 *графа запоўнена рукою* |
________________________________|
Литерные:________________________|
Пропущены:______________________|
Чертежи:_________________________|

**4.** *Ніжэй знаходзяцца штампы праверкі РГАДА (ЦГАДА), графы (падкрэсленыя) запоўнены інш. поч. і чрнл. (1955—1957 гг.):*

ЦГАДА |
ПРОВЕРЕНО |
12.IV.1957 г. *інш. поч. і чрнл.* |
Подпись Кощраков |

ЦГАДА |
ПРОВЕРЕНО |
29.IX.1955 г. *інш. поч. і чрнл.* |
Подпись *(неразборліва)*

ЦГАДА |
ПРОВЕРЕНО |
7.X.1957 г. *інш. поч. і чрнл.* |
Подпись Беляева *інш. поч. і чрнл.* ||

## 3. Некаторыя асаблівасці арфаграфіі і мовы Кнігі № 560

Адзначым некаторыя асаблівасці арфаграфіі Кнігі № 560.

Для пазначэння галоснага **е** ўжываецца літара **ε** («есць»)[53]. Як даводзяць даследчыкі гісторыі пісьма, літара **ε** характарызуе

[53] Пра такую канфігурацыі (**ε**) тагачаснага друкарскага варыянту літары піша Аляксандр Булыка: Арфаграфія // Булыка А. М., Жураўскі А. І.,

пераходны этап старабеларускай графікі XVI—XVII ст.[54]; у беларускай рукапіснай традыцыі назіраецца пераход гэтай літары ў **е**.

Літара **ѡ, Ѡ (Ω)** («амега») перадае гук «о». У тэксце крыніцы над літарай амега ставіцца дзве кропкі, што з'яўляецца характэрнаю ўласцівасцю старабеларускага пісьма[55]. Літара **ѡ** звычайна ставіцца на пачатку слова. У тэксце кнігі не ў пачатку слова ўжываецца літара **о** («он»). Тут бачыцца непасрэдны ўплыў грэцкіх традыцыяў пісьма, дзе літара **Ω** ("о мега") заўжды пачначае доўгае о, а літара **О** ("о мікрон") – заўжды кароткае о. Толькі некаторыя словы на **о-** пачынаюцца ў тэксце кнігі з літары **о**, а не **ѡ** (часам слова "отъцы").

Перапісчык Кнігі № 560 не выкарыстоўваў дыграф **оу** («ук»), а толькі **ү**. Існуе меркаванне, што гэта варыянт напісання літары «ук»[56]. Зусім магчыма, што **ү** пазначае літару **ѵ** («іжыца»), ад якой і паходзіць літара **у**[57]. Выкарыстанне **ү** у тэксце Кнігі № 560 вельмі паслядоўнае і адпавядае літары **у**. Для гісторыі беларускай мовы гэтая рыса вельмі цікавая і ілюструе пераход **в** у **ў**[58] (прыклад: "рєчъкою Ски*р*ною ү возєро Ски*р*нотѧ үдо*л*жъ"). Спецыяльнай графемы для абазначэння гука **ў** тады не існавала.

Заўжды ў асноўным тэксце кнігі літара **ѧ** («а ётаванае») адпавядае сучаснай літары **я**. Толькі ў праўках, зробленых почыркам $\text{II}_{\text{пм}}$ (у канцы XVI – пачатку XVII ст.) прысутнічае літара **ѧ** («юс малы»), якая адпавядае **я**.

Паўсюдна ў Кнізе № 560 для пазначэнне галоснага **і** выкарыстоўваецца літара **и** ("іже", "і васьмярычнае"). Літара **і** ("іжэі", "і дзесяцічнае") ужываецца толькі для пазначэння лічбаў і ў старажытнай кірылічнай фаліяцыі канца XVI – пачатку XVII ст. у лічбавым значэнне 10. Таксама толькі ў лічбах выкарыстоўваюцца

---

Свяжынскі У. М. *Мова выданняў Францыска Скарыны*. Мн., 1990. С. 11. Гл. таксама Біблію Скарыны: *Біблія*: *Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Ф. Скарынаю ў 1517—1519 гг.* У 3-х т. Мн., 1990—1991.

[54] Яскевіч А. Ад Складальніка // *Старабеларускія лексіконы*: («Лексисъ съ толкованіемъ словенскіхъ мовъ просто», «Лексис…» Л. Зізанія, «Синонима славенороссkая») / Укладанне, рэканструкцыя, сучаснае правапісна-графічнае ўпарадкаванне тэкстаў, прадмова, пасляслоўе і каментарыі Алены А. Яскевіч. Мн., 1992. С. 4.

[55] Павленко Н. А. *История письма* / 2-е изд. Мн.: Вышэйшая школа, 1987. С. 203.

[56] Куль–Сяльверстава С. Я. *Беларуская палеаграфія*. Гродна, 1996. С. 31.

[57] Булыка А. М. **У** [літара] // *Беларуская мова: Энцыклапедыя*. Мн.: БелЭн, 1994. С. 572.

[58] Булыка А. М., Жураўскі А. І., Свяжынскі У. М. *Мова выданняў Францыска Скарыны*. С. 16.

літара **s** (зяло), лічбавае значэння якой адпавядае 6, і літара **ѯ** (ксі), якая мае лічбавае значэнне 60.

Для пазначэння гука *ф* выкарыстоўваецца літара **ѳ** (фіта), у той час як літара **ф** (ферт) не ўжываецца.

У рукапісе ўжываюцца такія знакі пунктуацыі, як кропка і коска. Але сінтаксічная розніца паміж імі не выяўляецца. Коска мае характар найчасцей дужкі, а таксама нахіленай прамой ці знака, які ідэнтычны сучаснай косцы. Пры лічбах, пазначаных кірылічнымі літарамі, звычайна прастаўляецца двукроп'е.

Рэдкія выпадкі ўжывання галосных літар як вынасных, надрадкоўных ("*з* дєтьми нашы*ми*»). Гэтыя несістэмныя прыклады пацвярджаюць правіла, што вынаснымі паводле нормы былі зычныя.

Цітлы ў выглядзе двухскатнай дужкі. Апроч таго выкарыстоўваюцца цітлападобных выкарыстоўваюцца літары **д**, **з**, **м**, **р**, **х**, **ц**. Устойліва скарачаюцца і пішуцца пад цітламі наступныя словы:

г҃*с*дра – г(о)҃*с*(по)д(а)ра
г҃*с*дръ – г(о)҃*с*(по)д(а)ръ
г҃*с*дръски*ˢ* – г(о)҃*с*(по)д(а)ръски*й*
мл҃*с*ти – м(и)л(о)҃сти
мл҃*с*ть – м(и)л(о)҃сть
п҃на – п(а)҃на

Кніга № 560 з'яўляецца вельмі цікавай крыніцай па гісторыі мовы. Мова кнігі дае нам прыклады рэалізацыі дзвюх тэндэнцый у старабеларускім пісьменстве, пра якія ўжо даўно пісалі беларускія лінгвісты – захавання традыцыйнага пісьма і перадачы новага ў мове на пісьме[59]. Як раз у Кнізе № 560 мы бачым вельмі моцнае пранікненне жывой гаворкі ў мову справаводства, можна сказаць, што гэта адная з самых беларускіх, паводле мовы, кніг Метрыкі ВКЛ. Відавочна звязанае гэта з тым, што многія дакументы Кнігі № 560 ствараліся паводле апытання памежных жыхароў Браслаўшчыны і Полаччыны, менавіта таму многія жывыя беларускія рэаліі патрапілі ў канцылярскі тэкст. Гэтае меркаванне пацвярджае і факт наяўнасці ў Кнізе № 560 запісаў паказанняў сведкаў, у мова якіх адчуваецца ўплыў польскай мовы ў формах дзеяслова, як у выпадку з цытаваннем сведчаннем Казьмы Панькавіча: «…носилємъ за нимъ дрєвъцо и былємъ в тотъ часъ».

[59] Янкоўскі Ф. М. *Гістарычная граматыка беларускай мовы*. Мн.: Вышэйшая школа, 1989. С. 51; Свяжынскі У. Праблема ідэнтыфікацыі афіцыйнай мовы Вялікага Княства Літоўскага // *Metriciana: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага*. Том I. Мн., 2001.

Інфінітывы дзеясловаў заканчваюцца на **-и**: "… допустить мели искати и писати, малевати".

Выяўляецца фанэма **ў** (у нескладовае), асабліва ў напісаннях замежных імёнаў: Бридовъкгъ / Бридолъкгъ / Брыдолъкгъ – Брыдоўг. Тут **ў** пасля галосных пазначаецца праз літару **л** ці **в**.

Характэрныя рысы пісьма Кнігі № 560:

- фанетызацыя традыцыйнага напісання пад уздзеяннем жывой моўнай традыцыі (іншымі словамі – беларусізацыя традыцыйнага напісання);
- уніфікацыя графікі пад уздзеяннем фанетычнага прынцыпу;
- уплыў грэцкіх традыцый на сістэму пісьма (асаблівасці ўжывання літараў **ω** і **ε**).

З улікам таго, што нашае выданне разлічанае і на больш шырокае кола карыстальнікаў, пададзім тут звесткі пра ўсе літары старажытнай славянскай кірыліцы, якія выкарыстаныя ў Кнізе № 560.

Табліца 4.
Старажытныя кірылічныя літары, выкарыстаныя ў Кнізе № 560

| *Літара* | *Назва літары*[60] | *Гукавое значэнне*[61] | *Лікавае значэнне* | *Заўвага (почырк)* |
|---|---|---|---|---|
| **а** | аз | *а* | 1 | |
| **б** | букі | *б* | -- | |
| **в** | ведзі | *в* | 2 | |
| **г** | глаголь | *г* | 3 | |
| **д** | дабро | *д* | 4 | |
| **ε** | есць | *е* | 5 | |
| **ж** | жывеце | *ж'* | -- | |
| **s** | зяло | *д'з'* | 6 | Поч. І – толькі ў лічбах |
| **з** | зямля | *з* | 7 | |
| **и** | іжэі (і васьмярычнае) | *і* | 8 | |
| **і** | іжэ, і (і дзесяцярычнае) | *і* | 10 | Поч. І – толькі ў |

[60] Беларускі варыянт назваў літараў даецца паводле: Булыка А. М. Кірыліца // *Беларуская мова. Энцыклапедыя*. Мн., 1994. С. 260.

[61] Гукавае значэнне старажытных кірылічных літараў даецца паводле: Каўрус А. А., Круталевіч М. М. *Старaславянская мова*. Мн., 2005. С. 19—20.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | | | лічбах |
| **к** | кака | *к* | 20 | |
| **л** | людзі | *л* | 30 | |
| **м** | мыслеце | *м* | 40 | |
| **н** | наш | *н* | 50 | |
| **о** | он | *о* | 70 | |
| **п** | пакой | *п* | 80 | |
| **р** | рцы | *р* | 100 | |
| **с** | слова | *с* | 200 | |
| **т** | тверда | *т* | 300 | |
| **х** | хер | *х* | 600 | |
| **ѡ** | амега | *о* | 800 | |
| **ц** | цы | *ц’* | 900 | |
| **ч** | чэрв | *ч’* | 90 | |
| **ш** | ша | *ш’* | -- | |
| **щ** | шта | *ш’т’* | -- | |
| **ъ** | ёр | ‘ | -- | |
| **ы** | еры | *ы* | -- | |
| **ь** | ер | *ь* | -- | |
| **ю** | ю (у ётаванае) | *ю [‘у], [jу]* | -- | |
| **æ** | а ётаванае | *я [‘а], [jа]* | -- | |
| **ѧ** | юс малы | *я (гістарычна ę)* | -- | Выкарыстана толькі ў поч. II$_{пм}$ |
| **ѯ** | ксі | *кс* | 60 | Поч. I – толькі ў лічбах |
| **ѳ** | фіта | *ф* | 9 | |

Такім чынам, перапісчыкам і рэдактарам кнігі-копіі не выкарыстоўваліся наступныя літары старажытнай кірыліцы: **ћ** (гервь), **оу** (ук), **ф** (ферт), **ѣ** (яць), **ѥ** (е / э ётаванае), **ѫ** (юс вялікі), **ѩ** (ётаваны юс малы), **ѭ** (ётаваны юс вялікі), **ѱ** (псі), **ѵ** (іжыца). Хоць у выпадку неабходнасці лічбаў, маглі быць выкарысьтаныя наступныя літары, якія маюць лічбавае значэнне: **ф** = 500, **ѱ** = 700, **оу** ці **ѵ** = 400. Літары **s** і **і** выкарыстаныя якраз паводле гэтага неактыўнага прынцыпу– толькі для пазначэння лічбаў.

## 4. Агульныя прынцыпы перадачы тэксту

Тэкст Кнігі № 560 Метрыкі ВКЛ быў набраны ў камп'ютэры паводле мікрафільму, што захоўваецца ў Нацыянальным Гістарычным Архіве Беларусі (НГАБ, КМФ-18, воп. 1, спр. 560). Набраны тэкст ў далейшым звяраўся с рукапісам у Расійскім Дзяржаўным Архіве Старажытных Актаў (РГАДА, Ф. 389, оп. 1, д. 560).

Падчас падрыхтоўкі тэксту крыніцы да друку ў асноўным выкарыстоўваліся метадычныя рэкамендацыі па публікацыі Метрыкі ВКЛ[62], а таксама інструкцыі і рэкамендацыі па публікацыі крыніц, датычных гісторыі ВКЛ – лацінаграфічных[63] і кірылічных[64]. Практычную каштоўнасць маюць і крытычныя заўвагі, выказаныя ў час ажыўленай палемікі пра археаграфічныя прынцыпы[65]. Увогуле, самая археаграфічныя практыка выдання Метрыкі ВКЛ за апошнія амаль 20 гадоў з'яўляецца бясцэнным матэрыялам для параўнання і аналізу[66]. Апроч таго, да ўвагі браліся і лінгвістычныя правілы

---

[62] *Методические рекомендации по изданию и описанию Литовской Метрики* / Сост. А. Л. Хорошкевич, С. М. Каштанов. Вильнюс, 1985.

[63] Instrukcja wydawnicza dla średniowiecznych zródeł historycznych // *Archiwum Komisji Historycznej Polskiej Akademii Umiejętności*. Ser. 2, t. 2, 1930. S. 1—40; Glinka J. *Instrukcja wydawnicza dla źródeł dziejowych*. Warszawa, 1949; *Instrukcja wydawnicza dla zródeł historycznych od XVI do połowy XIX wieku* / Pod red. K. Lepszego. Wrocław, 1953; *Zasady wydawania tekstów staropolskich. Projekt*. Wrocław, 1955; Wolff A. Projekt instrukcji wydawniczej dla pisanych źródeł historycznych do połowy XVI wieku // *Studia źródłoznawcze*. T. I. Warszawa—Poznań, 1957. S. 155—181.

[64] *Передача текстів документів і пам'яток: Методичні рекомендації за матеріалами науково-методічної нарады (квітень 1990 р.)* / Підг. У. Єдлінська та В. Страшко. Київ, 1990; Страшко В. *Правила передачі тексту кириличних документів XVI—XVIII ст. дипломатичним і популярним методами та рекомендації для застосування цих правил у виданнях наукового і науково-популярного типів (Проект)*. Київ, 1992; Каштанов С. М. *Актовая археография*. М., 1998; *Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага)* / Аўт.-склад. А. І. Груша. Мн., 2003.

[65] Хорошкевич А. Л. Первые рекомендации по публикации рукописных кирилличных документов ВКЛ белорусского автора // *Беларускі археаграфічны штогоднік*. Вып. 4. Мн., 2003. С. 308—310; Латушкін А. М., Яцкевіч З. Л. Малапрыстасаваныя для практычнага выкарыстання рэкамендацыі // Тамсама, с. 310—318; Груша А. "Малапрыстасаваныя" рэкамендацыі ці малападрыхтаваныя рэцэнзенты? // *Беларускі гістарычны агляд*. Т. 10, сш. 1—2, снежань 2003. С. 201—227.

[66] Гл. поўны спіс выданняў Метрыкі ВКЛ за адзначаны перыяд: A. Dz. Кнігі Метрыкі ВКЛ, апублікаваныя ў 1987—2004 гадах // *Metriciana: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага*. Т. III, 2004. С. 281—291. Значную цікавасць з пункту гледжання выдання кніг Метрыкі ВКЛ як помнікаў уяўляюць публікацыі Судовых кніг, якія ажыццяўляе Віленскі Ўніверсітэт.

публікацыі помнікаў пісьменства[67]. Зразумела, што публікатар гэтай кнігі Метрыкі таксама мае ўласныя погляды на археаграфію.

У аснову перадачы тэксту кнігі пакладзены прынцып палітарнай яго перадачы. Пры гэтым публікатар імкнуўся да дакладнай перадача літараў арыгінальнага тэксту, прытрымліваючыся прынцыпа аўтэнтычнасці – перадачы ўсіх кірылічных літараў, што прысутнічаюць у тэксце, у тым ліку і зніклыя. Такім чынам, тэкст выдаецца без купюраў і адвольных дапаўненняў, арфаграфія тэксту захоўваецца, словы не скарачаюцца.

Сярод сучаных публікацый Метрыкі ВКЛ гэты прынцып вытрыманы ў украінскіх выданнях – кнізе № 220 («Рускай / Валынскай Метрыкі») Пятро Кулакоўськага[68] і кнізе № 562 Уладзіміра Краўчанкі[69]. Трэба адзначыць, што ва Ўкраіне усталявалася адпаведная практыка аўтэнтычнай перадачы тэкстаў. Гэтая тэма была прадметам дыскусіі на Навукова-метадычнай нарадзе, якая адбылася ў Кіеве ў 1990 г.[70] Адзін з аўтараў украінскіх археаграфічных правілаў Віктар Страшко ўводзіць адмысловы падзел прынцыпаў перадачы тэкстаў у навуковых і навукова-папулярных выданнях. Для дыпламатычнага метада ён фармулюе наступны прынцып: «В основу Правил передачі тексту кириличних документів XVI—XVIII ст. дипломатичним методом покладено принцип історичності документу. Кожен документ є неповторним пам’ятником своєї епохи. Зміни, внесені в текст прі його публікації, роблять опублікований документ неадекватним оригіналу і ставлять майбутнього дослідника перед можливістю дезінформації»[71]. «Дипломатичний метод передачі тексту документів полягає у дотриманни максимальної адекватності при передачі його засобами друкарського відтворення. Межами адекватності є лише розуміння

[67] *Правила лингвистического издания памятников древнерусской письменности*. М., 1961.

[68] *Руська (Волинська) Метрика. Книга за 1652—1673 рр.* / Підготував до друку Петро Кулаковський. Острог – Варшава – Москва, 1999 (Monumenta Historica Res Gestas Europae Orientalis Illustrantia. Fontes XV–XVII saec. Vol. V). Паводле агульнай нумарацыі Метрыкі ВКЛ гэта Кніга № 220.

[69] *Литовська Метрика. Книга 561. Ревізії українськіх замків 1545 року* / Підготував Володимир Кравченко; НТШ в Америці; НТШ в Україні; НАНУ, Інститут української археографії та джерелознавства ім. М. С. Грушевського. Київ, 2005. (Архівні джерела, т. 7).

[70] *Передача текстів документів і пам’яток: Методичні рекомендації за матеріалами науково-методічної нарады (квітень 1990 р.)* / Підг. У. Єдлінська та В. Старшко. Київ, 1990.

[71] Старшко В. *Правила передачі тексту кириличних документів XVI—XVIII ст. дипломатичним і популярним методами та рекомендації для застосування цих правил у виданнях наукового і науково-популярного типів (Проект)*. Київ: Інститут Української Археографії, 1992. С. 6, п. 1.1.

тексту археографом та технічні можливості друкарства». Таму «зберігаються, без будь-яких змін, всі наявні в тексті кириличні літери»[72]. Адначасова прапанаваныя правілы захоўваюць гнуткасць адносна публікацый папулярным метадам, які «полягає у максимальній адаптації цього тексту для норм сучасної друкарської графіки та сучасного правопису тієї мови…, на якій виконується видання»[73]. Варта прызнаць, што прапанаваныя украінскія правілы, з выкарыстаннем камп'ютарных магчымасцяў, дазваляюць найбольш адэкватна перадаваць гістарычны тэкст. Такія дыпламатычныя публікацыі ўводзяць ва ўжытак не толькі гістарычную крыніцу, а даюць магчымасць даследаваць гісторыю мовы. Безумоўна, усё гэта стварае больш груваcткую сістэму перадачы старажытных тэкстаў. Але хто ведае, якая яшчэ інфармацыя прыхаваная ў крыніцы і не прачытаная сучасным даследчыкам?

Таксама абмежаванасць правілаў перадачы тэксту толькі сучаснымі літарамі прызнаюць публікатары Кнігі № 28[74]. Валеры Мянжынскі прапанаваў «літары "е" і "я", як маючыя двайную варыянтнасць, у выпадку іх графікі – "ɛ" і "ѧ" пазначаліся кропкай уверсе»[75]. Калі заставацца ў сістэме сучасных літар, то такі варыянт размежавання старажытных літар дазваляе перадаваць асаблівасці старажытных тэкстаў. Беларускае выданне Попісу войска ВКЛ 1528 г.[76] таксама ўжо перадае большасць старажытных кірылічных літараў.

Тэкст крыніцы падзелены на словы, сказы і абзацы паводле прынцыпу тэматычнай і граматычнай закончанасці раздзелаў і ў адпаведнасці з фармулярам. Зважаючы на рэгістацыйны характар запісаў Кнігі № 560 зрабіць гэта было не складана – у самім рукапісу выразна вылучаны абзацы, а частка інфармацыі падаецца ўвогуле праз табліцы. Абзацы ў рукапісе звычайна размешчаны праз 1,5—2 інтэрвалы; іншыя выпадкі агаворваюцца ў заўвагах.

Знакі пунктуацыі расстаўлены ў адпаведнасці з сучаснымі правіламі. Але пры гэтым у заўвагах адзначаюцца ўсе знакі старажытнай пунктуацыі, якія маюцца ў тэксце. Знак, які можна

---

[72] Старшко В. *Правила передачі…* С. 6, 7, п. 1.2, 1.6.

[73] Старшко В. *Правила передачі…* С. 6, п. 2.2.

[74] *Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 28 (1522-1552 гг.). Кніга запісаў 28* / Падрыхтоўка тэкстаў да друку і навук. апарат: В. Мянжынскі, У. Свяжынскі. Мн.: Athenæum, 2000.

[75] Мянжынскі В. Уводзіны // *Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 28.* С. 7.

[76] *Пераліс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кн. 523. Кн. Публічных спраў 1* / Падрыхтавалі А. І. Груша, М. Ф. Спірыдонаў, М. А. Вайтовіч; НАН Беларусі, Інстытут гісторыі. Мінск: Беларуская навука, 2003.

назваць “коска”, выкарыстоўваўся перапісчыкамі кнігі найперш у тых выпадках, калі меўся значны пералік аднародных прадметаў і з’яваў. Але гэтая «коска» ўжываецца незаўжды паслядоўна.

Прапушчаныя літары ў скарачэннях пад цітламі раскрываюцца з улікам асаблівасцяў правапісу старабеларускай мовы, пры гэтым самі цітлы захоўваюцца, бо яны з’яўляюца цікавым матэрыялам для вывучэння гісторыі старабеларускай мовы. Самі цітлы ў рукапісе двускатныя (“хвалістыя”) і знак цітла, які выкарыстоўваецца пры публікацыі, даволі дакладна перадае абрысы арыгінальных цітлаў. Адноўленыя ў скарачэннях літары падаюцца ў круглых дужках **()**. Устаўкі ад аўтара ўзяты ў квадратныя дужкі **[]**. Вынасныя літары і склады ўстаўлены ў радок і перададзены курсівам.

Зусім рэальны змест для гісторыі мовы маюць цітлы, пры дапамозе якіх пазначалася скарочанае напісанне слова. Пры гэтым звычайна апускаліся літары, якія абазначалі галосныя гукі. Важнае значэнне ўлік цітлаў мае для разумення эвалюцыі **ъ** (ёр) і **ь** (ер). Сустракаюцца выпадкі, калі цітлы ўжываюцца без моўнага значэння, і ў такім выпадку яны з’яўляюцца толькі элементам упрыгожання. Гэтыя назіранні прымусілі публікатара адмовіцца ад ранейшых рэкамендацый не паказваць цітлы. Пры гэтым трэба ўлічваць, што такія вынасныя літары, як **д**, **ж**, **з**, **р**, **т** былі цітлападобнымі і маглі самі выконваць функцыі цітлаў. У такіх выпадках цітлы ў тэксце не прастаўляюцца.

Значок «$^{s}$» («паерык»), які ў тэксце пасля галоснай у сярэдзіне і на канцы слова паслядоўна ўжываецца для пазначэння гука “**j**” і пішацца над радком, перадаецца літарай ***й***. Практыка не парадаваць **й** ужо замацавалася ў выданнях кнігаў Метрыкі, якія рыхтуе Інстытут гісторыі Літвы. Аўтар гэтай публікацыі зыходзіў з канстантаванага беларускімі лінгвістамі факту, што ў старабеларускіх тэкстах літара **й** пачынае ўжывацца як раз з XVI ст.[77] Дарэчы, у тым ліку і гэтым старабеларускае пісьменства адрозніваецца ад расійскай арфаграфічнай сістэмы, дзе літара **й** была ўведзеная толькі арфаграфічнай рэформай 1735 г.[78] Зыходзячы з таго, што «паерык» з’яўляецца толькі варыянтам напісання літары

---

[77] Булыка А. *Развіццё арфаграфічнай сістэмы старажытнай беларускай мовы*. Мн., 1970. С. 54; Янкоўскі Ф. М. *Гістарычная граматыка беларускай мовы*. С. 56.

[78] Черных П. Я. *Историческая грамматика русского языка*. М., 1962. С. 103; Истрин В. А. *1100 лет славянской азбуки* / 2-е изд. М.: Наука, 1988. С. 166.

**й**, а не самастойнай літарай, аўтар публікацыі палічыў магчымым перадаваць «паерык» праз літару “*й*”[79].

Дыграф **Кг** / **кг**, які абазначае выбухны “г” (g), захаваны. Літары **ъ** (ёр) і **ь** (ер) захаваны паўсюль, але пры раскрыцці скарачэнняў не аднаўляюцца.

Лічбы, якія пазначаныя літарамі кірылічнага алфавіту, перадаюцца арабскімі лічбамі. У самім тэксце ў састаўных лічбах выкарыстоўваецца літара «и», якая таксама часта знаходзіцца пад цітлам: ҃н҃и҃д [50 і 4]. Часам па баках лічэбнікаў прастаўляецца двукроп’е (з абодвух бакоў ці з аднаго). Своеасаблівай інтэрпаляцыяй можна назваць выпадак прастаўлення двукроп’я пасля лічэбніка, напісанага словам (гл. кустод на арк. 23 v. «шє*т*дєсять:», альбо напісанне «:дєсєть» на тым жа аркушы). Двукроп’е часам нават прастаўлялася перад лічэбнікамі, напісанымі словамі – уплыў агульнага правіла напісання лічэбнікаў літарамі. Колькасныя лічэбнікі, якія напісаны ў крыніцы словамі, перадаюцца словамі.

Геаграфічныя элементы тытула пішуцца з вялікай літары, бо весь тытул носіць строга афіцыйны характар[80].

Пропускі тэксту і неразборлівае напісанне тэксту пазначаецца і агаворваецца ў падрадковых заўвагах. Праўкі графікі літараў, калі яны не змяняюць значэнне знака, не абумоўліваюцца. Вялікія літары (у два-тры разы большыя за звычайныя) пададзены тоўстым шрыфтам.

Канец радка пазначаны адной вертыкальнай рыскай “|”, канец аркуша кнігі-копіі пазначаецца дзвюма вертыкальнымі рыскамі “||”. Нумар аркуша абазначаецца ў самім тэксце ў квадратных дужках тоўстым курсіўным шрыфтам, а таксама выносіцца на палі ўжо без дужак. Пайсці на такі крок прымусіла спецыфіка тэкста – суцэльнага апісальнага, які не падзяляецца на асобныя дакументы. Дубляванне нумарацыі выразна падае структуру тэкста і спрашчае пошук той ці іншай пазіцыі паводле паказальнікаў. Калі пры нумары аркуша друкуецца літара “**v.**”, то гэта азначае адварот архіўнага аркуша (verso *лац.* = адварот). У самім тэксце адварот аркуша пазначаны літарамі “**об.**” (“оборот”).

---

[79] Разгорнутую аргументацыю аўтара на гэты конт гл.: Дзярновіч А. Да партрэту літары «**й**» у Метрыцы ВКЛ // *Актуальныя пытанні вывучэння і выдання Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага.* Матэрыялы міжнароднай навук.-практ. канфер. (Мінск, 11—12 лістапада 2003 г.). Мн., 2005. С. 22—35.

[80] С. Каштанаў прапаноўвае геаграфічныя элементы тытула пісаць з вялікай літары, калі Яны знаходзяцца пасля вызначэння ранга (сана) носьбіта ўлады, бо ўвесь тытул носіць строга афіцыйны характар, гл.: Каштанов, с. 54.

Таксама на палях публікатар кнігі размясціў свае кароткія каментарыі, якія дапамагаюць арентавацца ў зместавай структуры тэксту. Як ужо адзначалася, першая частка Кнігі № 560 (акт дэмаркацыі 1542 г.) не падзяляецца на асобныя дакументы, таму публікатар вырашыў не разрываць тэкст аўтарскімі загалоўкамі, але размясціў з боку тлумачальныя каментарыі, утвораныя паводле геаграфічна-тэрытарыяльных блокаў, якія можна вылучыць у тэксце, напрыклад: ***Дрысвяцкая мяжа, Браслаўская мяжа, Асвейская мяжа, Уладанні паноў смолвенскіх, Дрысвяцкі павет, Браслаўскі павет, Друйскія ўладанні Сапегі, Асвейская воласць, Скаргі жыхароў Майшаголскага павету, Скаргі жыхароў Дрысвяцкага павету, Скаргі жыхароў Браслаўскага павету, Скаргі жыхароў Друйскай воласці, Скаргі жыхароў Браслаўскай воласці, Скаргі мяшчан браслаўскіх, Скарга князя Юрыя Масальскага, Скаргі жыхароў Друйскай воласці.***

Адметнасць тэксту Кнігі № 560 – не так частае выкарыстанне **кустодаў** (ці **рэкламантаў**), гэта значыць апошняга падрадковага слова, часам некалькі словаў ці часткі слова, напісанага ў правым ніжнім куце аркуша (рэкламант – адпаведна першае слова наступнага аркуша пасля кустода). У той час, як у кнігах Метрыкі ВКЛ XVI ст. ужыванне кустодаў ці рэкламантай з'яўляецца даволі пашыраным прыёмам справаводства. Кустоды і рэкламанты важна адзначаць, каб паказаць, дзе іх імкнуліся прастаўляць служачыя канцылярыі, а дзе не лічылі патрэбным. Пры публікацыі Кнігі № 560 словы кустодаў (рэкламантаў) не дублююцца, але іх наяўнасць агаворваецца ў падрадковых заўвагах.

У тэксце пакінуты ўсе апіскі перапісчыка. Увогуле, такіх апісак няшмат. У падрадковых заўвагах даецца слушная, на думку публікатара, версія напісання. Таксама ў заўвагах адзначаюцца пашкоджанні тэксту, выпраўленні, памаркі. Асобна адзначаецца, калі праўкі зробленыя іншым чарнілам.

Асабістыя імёны і тапанімічныя назвы назвы захаваны ў той форме, ў якой яны фігуруюць у рукапісе. У кнізе сустракаецца рознае напісанне тых жа самых словаў – іх напісанне пакінута паводле рукапісу і ў заўвагах не агаворваецца.

## 5. Кніга № 560 Метрыкі ВКЛ як гісторыка-геаграфічная крыніца

Кніга Метрыкі ВКЛ № 560 уяўляе сабой храналагічна і тэматычна кампактны зборнік дакументаў, якія тычацца праблемы памежных узаемадачыненняў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Лівоніяй, галоўны акт кнігі – тэкст дэмаркацыі 1542 г. (з устаўкай фрагмента тэкста пра дэмаркацыю 1541 г., якая была праведзеная

толькі ў пачатковай сваёй стадыі), а таксама запіс скаргаў памежных жыхароў ВКЛ на дзеянні адміністрацыі і жыхароў памежжа Лівоніі.

Улік памежных праблемаў дазваляе зразумець адзін з галоўных вузлоў супярэчнасцяў паміж гэтымі дзяржавамі ў першай палове XVI ст. Мяжа праходзіла ад Балтыйскага мора і цягнулася да Пскоўскай зямлі, падзяляючы Жмудзь з Курляндыяй, “Завілейскую Літву” з Земгаліяй, праходзіла па лініі старажытнай полацкай мяжы з Латгаліяй. Менавіта ўсталяваная ў другой палове XV–XVI ст. мяжа ў галоўным адпавядае сённяшней лініі тэрытарыяльна-дзяржаўнага размежавання. Пры зменлівасці ў XX ст. межаў Беларусі, яе межы з Латвійскай Рэспублікаю шмат у чым паўтараюць тую лінію, якую яшчэ тады супольна акрэслілі камісары Вялікага Княства Літоўскага і Лівоніі (іншыя выпадкі будуць абумоўленыя асобна). Такая сітуацыя досыць рэдкая для палітычнай карты Еўропы. Мяжа з боку літоўскіх зямель, а асабліва Жмудзі, да другой паловы XV ст. была рухомаю – адбывалася пранікненне жмудскага насельніцтва на тэрыторыю куршаў, падуладных Лівоніі. Апроч таго, адбывалася гаспадарчая каланізацыя – аграрнае і прамысловае засваенне зямель на памежжы. Працэдуры размежавання ВКЛ і Лівоніяй другой паловы XV–XVI стст. як раз і вырашылі памежныя спрэчкі паміж дзяржавамі. Абрыс усталяванай тады мяжы датрываў да 20-х гадоў XX ст., калі ўжо Літоўская і Латвійская Рэспублікі правялі ўзаемаабмен участкамі тэрыторыяў.

Кніга № 560 дае даволі падрабязнае апісанне працэдуры дэмаркацыі мяжы. Памежныя камісары (тут – члены камісіі, створанай часова дзеля вырашэння пэўнай адміністрацыйнай задачы) абедзвюх дзяржаў у загадзя прызначаны праз пасольствы дзень сустракаліся ў традыцыйным пункце пачатку ўсіх дэмаркацый XV—XVI ст. – каля возера Курцум (Курчмы паводле крыніцы). Менавіта там усталёўваліся знакі пачатку дэмаркацый: “…зүполъною радою и ωдъностайнымъ үмысломъ үчинили знакъ и початокъ тыхъ границъ надъ ωзєромъ Күръчмы, үсыпали стороны Кнæзъства Вєликого Литовъского нємалый копєцъ ωколо дүба, а стороны Лифлæнтъского, напротивъко томү копъцү такєжъ үсыпаный копєцъ нємалый” [арк. 6]. Традыцыйны пара правядзення дэмаркацый – зіма, а дакладней, студзень. Трэба меркаваць, што зімовыя маразы дазвалялі праехаць па балатах і шматлікіх азёрах і рачулках краю, дзе адбывалася дэмаркацыя. Камісары мусілі мець інструкцыі сваіх уладароў: “…үзæвъши Бога на помочъ и свєтүю справєдливость, и такъ тєж чынєчы к воли и росказанью Его милосъти Господара нашомү милостивомү, Королю Его милости” [арк. 6 v.]. Непаўната такіх інструкцый (“науки”) магла стварыць перашкоды ў працэсе дэмаркацыі, ці, прынамсі, быць падставаю

дзеля часовага спынення працэдуры. Менавіта гэтак адбылося ў 1542 г. з ініцыятывы лівонскіх камісараў, якія “повєдили, ижъ в томъ зүпольнои наүки ѡтъ пана своєго нє маємъ, абы намъ допүстить мєли искати и писати, малєвати границъ Радивиловыхъ, и взѧли то собє до навүки пана своєго пєвъный рокъ до сєрєды. А скоро бы имъ была принєсєна навүка ѡтъ пана Мистра их, тогожъ часү мєли намъ дати знати. А коли тотъ дєнь пришолъ, то єсть сєрєда, ѡны жадъноє наүки ѡтъ пана своєго намъ нє повєдили и възєли то собє єщо напєвъны и ѡстаточъный рокъ до сүботы подъ добрымъ а рицєрскимъ словомъ, ижъ мєли дати знати намъ волю пана своєго. А коли тотъ дєнь пришолъ, то єстъ сүбота, такєжъ, ѧкъ и пєръвєй, жадноє наүки ѡтъ пана своєго, котораѧ бы мєла дана быти, нє повєдили, только үказовали намъ листъ пана Мистра ихъ Лифълѧнтъского, который былъ писанъ до Его милости Госъподара нашого милосътивого Королѧ Его милосъти Жикгимонъта, и повєдили намъ, иж мы того чинити нє можємъ, а ни хочємъ. А бысъ мы васъ пүститъ мєли, гдє подъданыє Госъподара Королѧ Его милосъти повєдүть, было бы то шкодою панъствү Лифълѧнтъскомү” [арк. 7—7 v.].

Пасля вырашэння пачатковай стадыі, пасланнікі пераходзілі да складання супольнага дакумента, у якім, праўдападобна, апісвалася лінія раней усталяванай мяжы (“ѧко которымъ ѡбычаємъ мєли быхъмо искати границъ Радивиловыхъ” [арк. 6 v.]). Далей адбывалася цікавая працэдура, звязаная з атрыманнем кожнай памежнай камісіяй свайго экзэмпляра акта, ідэнтычнага другому: “…ѡни с нами үчынили таковоє постановєньє, и листомъ своимъ намъ ѡписалисѧ, который листъ наполой розрєзали, и намъ ѡднү наполовицү дали, а дрүгүю собє зоставили, которие в одно слово было написано. Нашыхъ листєхъ пєршихъ арътыкүлъ стоить, гдє подъданыє Его милосъти Госъподора нашого милостивого, Королѧ Его Милосъти, насъ повєдүть, маємъ их наслєдовати” [арк. 6 v.]. Далей з камісараў ВКЛ і Лівоніі ствараліся дзве групы, якія мусілі скіроўвацца ад Курчума на ўсход (да граніц маскоўскіх) і на захад (да Салёнага – Балтыйскага мора). У кожную з гэтых груп уваходзіла аднолькавая колькасць камісараў кожнай з дзяржаў: “А затымъ түтъ сталосѧ мєжи нами розъдєлєнє: ѧ, Иванъ Глєбовичъ Корсакъ, а Ѧнъ Кмита – стороны Вєликого Кнѧзъства Литовъского, Ѧнъ Бокорытъ, а Лавърєнътиүсъ Шинъхєль – стороны панъства и зємли Лифълѧнтъскоє, посланы кү границамъ московъскимъ на горү. А на дрүгүю сторонү кү Солономү морү, то єстъ на долъ, єхали Ѡлєхно Крывєц, а Миколай Трєтѧкъ, а стороны зємъли Лифълѧнтъскоє Филипъ Фүнъдєръбрүкгъ, а Ѧнъ Вєркгєль” [арк. 7].

Маркерамі мяжы былі як прыродныя, так і створаныя рукамі аб’екты – насыпаныя капцы, знакі на дрэвах, борці, выкапаныя ямы, «закладныя магілы». Можна вылучыць наступныя тыпы штучных (створаных людзьмі) маркераў мяжы:

- знакі на дрэвах (сасна, ліпа), пнях (варыянт – «в… сосьнє єсть знакъ, камєнь пүшєчъный»);
- капец («копъцы сыпаны», горка), (звычайна парныя – з боку ВКЛ і Лівоніі, а нават і трайныя – з боку Пскоўская зямлі);
- борць («в… копъцы стоить пєнь со*с*новы*й*, в которо*й* сосънє бо*р*ть была… Какъ жє в томъ пни и тєпє*р* знаки сить»; «пєнь сосъновый, в которой сосънє борьть»);
- яма, паглыбленне ў зямлі («выкопанаѧ ѧма»; «закладъная могила»);
- камень у рацэ.

Табліца 5
Маркеры мяжы

| *№* | *Тып маркера* | *Колькасць прыгадак у Кнізе № 560* | *Заўвагі* |
|---|---|---|---|
| 1. | Знакі на дрэвах, пнях | 17 | Прыгадваюцца “частыя знакі” |
| 2. | Капец, горка | 14 | Звычайна група капцоў |
| 3. | Борць | 2 | |
| 4. | Яма | 2 | |
| 5. | Камень у рацэ | 1 | Знак на камяні |

Часам па інтэрпрэтацыі таго ці іншага знака маглі ўзнікаць дыскусіі. Таму асабліва важнымі тут былі паказанні сведкаў. Вось як гэта выглядела ў Дрысвяцкім павеце: «Какъ жо на тыи знали старыи пана Радивиловы границы, врадъникъ Дрысвєцъкий панъ Сємєнъ Мацъковичъ ставилъ пєрєдъ нами свєтъковъ людєй старихъ, вєри годъныхъ [варыянт: «…ставили пєрєдъ нами свєтъковъ добрыхъ, людєй старыхъ, вєры годъныхъ»]… Тыє вси свєтъки свєтъчыли тымъ ѡбычаємъ, мы памєтаємъ, коли панъ Радивилъ єзъдилъ и граничилъ з нємъцы за Его милости Короля Казимира. В тотъ часъ ѡтъцовє наши єзъдили с паномъ Радивиломъ, и насъ в тотъ часъ, дєтєй своих, зъ собою брали. И тотъ єзъдъ памєтаємъ, и границу пана Радивилову…» [арк. 14—14 v.]. У выпадку, калі сведкі па стану здароўя не маглі непасрэдна прыбыць на мяжу, то іх «на возехъ

вывозили до насъ [памежных камісараў], которие не могли ходить, предъ старостою асветъчыли тымъ **ѡбычаемъ**, в одно слово поведаючы…» (выдзелена намі – А. Дз.) [арк. 10 v.].

Крыніца падае крытэрыі, паводле якіх адбіраліся такія сведкі: «…ставили пєрєдъ нами свєтъковъ добрыхъ, людєй старыхъ, вєры годъныхъ» [арк. 10 v.]. Гэтых сведкаў «на возехъ вывозили до насъ [да памежных камісараў – А. Дз.], которие не могли ходить, предъ старостою асветъчыли тымъ ѡбычаемъ, в одно слово поведаючы…». Яшчэ цікавая дэталь – пры дэмаркацыях на мяжу наўмысна бралі дзяцей, каб яны ў будучым маглі выступаць у якасці памежных сведкаў. Прынамсі, так было падчас Радзівілавай дэмаркацыі 1473 г., і ў 1542 г. гэтыя ўжо дарослыя людзі, сведчылі на мяжы: «…мы памєтаємъ, коли панъ Радивилъ єздилъ и граничилъ з нємъцы за Его м(и)л(о)сти Королѧ Казимира. В тотъ часъ ѡтъцовє наши єздили с паномъ Радивиломъ, и насъ в тотъ часъ, дєтє*й* свои*х*, зъ собою брали. И тотъ єздъ памєтаємъ, и границү пана Радивиловү”.

Тэрміналагічна сведкі («люди старие, вєри годъные») выразна аддзелены ад афіцыйных публічных сведкаў («вижей»), функцыі якіх прапісаныя ў Статуце 1529 г. Пазначэнне сведкаў пры дэмаркацыі сугучнае з назваю пабочных сведкаў у Статуце – «людей добрих, вери годъныхъ». Менавіта пабочныя, а не афіцыйныя сведкі з'яўляюцца ў працэдуры дэмаркацыі галоўнымі, у адрозненні ад крымінальных ці грамадзянскіх справах, дзе Статут 1529 г. узаконіў наяўнасць пры віжах пабочных сведкаў, якія былі як бы «грамадскім дадаткам» да афіцыйных (неаспрэчных) сведкаў[81]. Звязана гэта з тым, што сведкі – мясцовыя жыхары, з'яўляліся рэальнымі носьбітамі тапаграфічнай інфармацыі. Гэтыя сведкі рэпрэзэнтавалі традыцыю вуснага права, пра што гаворыць спасылка на звычай: «…асвєтъчыли тымъ ѡбычаємъ» [арк. 10 v.].

Спецыфіка зямельных спрэчак пад час дэмаркацый палягае на тым, што такія спрэчкі аказваюцца ў праблемным полі дзвюх прававых рэалій – зямельнага права і дагаварных адносін з іншай дзяржавай. Памежныя жыхары ВКЛ у такіх выпадках былі гатовыя прыносіць прысягу: «А на томъ на всємъ мы вси готови єсмо присєгънути и зъ дєтьми нашыми, ижъ то єсть правъдивая граница пана Радивилова, и инъшых многихъ людєй пры тыхъ свєтъкохъ

[81] Эвалюцыю інстытуту афіцыйных сведкаў аналізаваў Уладзімір Палішчук: Поліщук В. В. *Офіційні свідки в структкрі Луцького замкового уряду до реформ 1564—1566 років* (службове підпорядкування і правові послугі). Автореферат дис. … канд. іст. наук: 07.00.01 / НАН України, Інститут українознавства імені І. Крип'якевича, Інститут народознавства. Київ, 2003. С. 10—11. Пра віжэй гл.: Zakrzewski A. Wiż w prawie Litewskim XVI w. // *Czasopismo Prawno-Historyczne*. 1985, T. XXXVII, Z. 2. S. 153—165.

ставили, коториє то слыхали ѡтъ ѡтъцовъ своихъ, и при тыхъ свєтъкохъ такъ жє присегънути хочыть» [арк. 14 v.]. Такім чынам, самі сведкі імкнуліся быць прыведзеныя да прысягі. Працэдура прысягі пры зямельных спрэчках прадугледжана ў Статуце ВКЛ 1529 г. у Артыкуле 1 Раздзелу 8 [VIII, 1] «О права земленые, о границах и о межах, о копах»[82]. Адначасова Артыкул 2 гэтага ж Раздзелу дазваляў вызваляць ад прысягі: “Чии будуть светки годнейшие, тые мають светчити без присяги”. Але ў выпадку ўзнікненя спрэчнай сітуацыі “зямельны” Раздзел Статуту прадугледжваў менавіта працэдуру прысягі: “А естли с обудву сторон знаков не было, тогды чие светки годнейшие будуть, того мать ку доводу и присязе допустити” [VIII, 3]. Прысяга разглядалася як від доказу і яе значнасць была вельмі вялікай. У выніку правядзення пачатковых (уступных) працэдур суд прымаў рашэнне пра мэтазгоднасць і адэкватнасць прысягі. У памежнай справе з гэтымі працэдурамі сувымерны працэс рэвізіі маркераў і ўстанаўлення іх верагоднасці, апытанне сведкаў пра маркеры мяжы, збор скаргаў. Кніга Метрыкі № 560 фіксуе такую падачу скаргаў. Вялікакняскія камісары ў гэтым выпадку выступалі таксама як суддзі, а складзеная скарга ў гаспадарскай Канцылярыі ўносілася ў Метрыку ВКЛ як “запис” і гэтым самым набывала значэнне прававога факту. Пры рэвізіі памежных уладанняў камісары аперавалі таксама такім прававым і статутным паняццем як “достаточъны **доводъ**” [гл. арк. 7 v.], што пазначала абгрунтаваныя, верагодныя доказы ў судовай справе. На падставе гэтых дадзеных у судовым працэсе вызначалася наяўнасць або адсутнасць фактаў, якія абгрунтоўвалі патрабаванні і пярэчанні бакоў, а таксама сам факт казусу. У судовых працэдурах факты па справе высвятляліся з дапамогай паказанняў сведак, пісьмовых і рэчавых доказаў, прысягаў і інш. Паводле права ВКЛ найбольш пераканаўчымі ўважаліся пісьмовыя доказы і паказанні сведак. У працэдуры дэмаркацыі як раз пісьмовыя доказы (матэрыялы ранейшых дэлімітацый і дэмаркацый) і паказанні сведак, ды рэвізія сітуацыі на месцы з'яўляліся найгалоўнейшымі «довадамі» ў спрэчках па пытаннях устанаўлення верагодных маркераў і спрэчках вакол нерухомай і рухомай маёмасці на памежных тэрыторыях.

Такім чынам, у працэсе дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы гаспадарскія камісары выкарыстоўвалі перадсудовыя працэсуальныя нормы Статуту ВКЛ 1529 г., якія тычыліся апытання пабочных сведкаў («свєтъковъ добрыхъ, вєры годъныхъ»), працэдур

---

[82] *Pirmasis Lietuvos Statutas = Первый Литовский Сатут*: Tekstai senąja baltarusių, lotynų ir senąja lenkų kalbomis. Vilnius: Mintis, 1983.

прынясення прысягі ды падачы скаргаў[83]. Сведкі, апроч таго, апытваліся ў адпаведнасці са звычаёвым правам («обычай»).

Скаргі, якія маюць стандартны актавы пратакол, утрымліваюць пераважна стандартызаваную інфармацыю пра парабаваную маёмасць. Гэта той тып першаснай скаргі (“першая скарга”), якую Ян Адамус адрозніваў ад скаргі, што непасрэдна падрыхтоўвала будучы судовы працэс[84]. Ці можна цалкам давераць зместу гэтых скарг? Калі так, то гэта азначае, што ў памежнай з Лівоніяй тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ўтрымлівалася вельмі вялікая колькасць свойскай рагатай жывёлы, каней і інш. У скаргах зямян маглі фігураваць статкі па 30 коней (як у Аўрама Шуркавіча) і 20 кароў (як у Томаса Буцевіча). І заўжды называюцца толькі лічбы, якія дзеляцца на дзясяткі ці пяцёркі без рэшты (10, 15, 20, 30, 40 і г. д.). Ці магла гэтая інфармацыя быць свядома перабольшанай жыхарамі памежжа ВКЛ? Найбольш карэктнымі выглядаюць звесткі пра «папісных» каней. Так, у Дрысвяцкай воласці ў Паўла Борткавіча «взæли конєй два пописъныхъ», у Войтка Міштартавіча «побрали… конєй, взяли пописъныхъ два, которие стояли по пєти копъ грошєй»[85]. Гэта верагодная інфармацыя, бо Першы Статут ВКЛ у раздзеле другім “О обороне земской” вызначаў, як можна меркаваць, мінімальны кошт вайсковага папіснога каня: “...пахолка на добром кони, штобы конь стоял за чотыри копы грошей”[86]. Тое, што прыгаданыя коні адносяцца да Попісу войска, сведчыць і працяг пераліку маёмасці Войтка Міштартавіча: «…панъцєры два, сєдла чотыры, мєчы чотыры, ѡстроги пæтєри». У іншых скаргах (напрыклад, Грышкі Шэмбеля) мы бачым, што зямяне ацэньвалі сваіх коней «по дєсєти

[83] Гл. таксама: Дзярновіч А. Выкарыстанне працэдурных нормаў I-га Статута Вялікага Княства Літоўскага пад час дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы ВКЛ з Лівоніяй (паводле матэрыялаў Кнігі Метрыкі ВКЛ № 560) // *Pirmasis Lietuvos Statutas ir epocha*: straipsnių rinkinys / Vilniaus universitetas [sudarė Irena Valikonytė ir Lirija Steponavičienė]. Vilnius, 2005. P. 243—248.

[84] Adamus J. O wstępnych aktach procesu litewskiego (do II Statutu) // *Ateneum Wileńskie*. R. XII. Wilno, 1937. S. 211.

[85] Між іншым, гэтыя звесткі адсутнічаюць у Попісе 1528 г. (як ўвогуле па Дрысвяцкаму павету і Смольвенскай воласці), таму яны дапаўняюць карціну мабілізацыйных рэсурсаў ВКЛ і сведчаць, што Попіс 1528 г. ахапіў не ўсіх ваеннабавязаных баяраў. Гл.: *Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кн. 523. Кн. Публічных спраў 1* / Падрыхтавалі А. І. Груша, М. Ф. Спірыдонаў, М. А. Вайтовіч. Мн., 2003.

[86] *Pirmasis Lietuvos Statutas = Первый Литовский Сатут*: Tekstai senąja baltarusių, lotynų ir senąja lenkų kalbomis / S. Lazutka, I. Valikonytė, E. Gudavičius. Vilnius, 1983. P. 90.

*Уладзіслаўлева і другі неразборлівы подпіс зроблены іншымі почыркамі і атрамантамі. Ніжэй – накладная сургучная пячатка Сенату:*

Въ сей книгѣ номерованныхъ и запечатан|ныхъ листовъ 37 тридцать семь, за подпи|сомъ Комисіи учрежденной Господиномъ Ми|нистромъ Юстиціи для разсмотрѣнія и при|вѣдѣнія въ порядокъ Метрическихъ книгъ на|ходящихся въ Польской Метрикѣ, состоя|щей при 3м Департаментѣ Правитель|ствующаго Сената. |

*Інш. поч. і чрнл.* Оберъ Прокуроръ Владиславлевъ |

*Ніжэй інш. поч. і чрнл.* Статскій Совѣтникъ Г. Пиринъ *подпіс неразборлівы* |

*Ніжэй інш. поч. і чрнл.* Коллежскій Ассесоръ Петръ Бибинъ ||

[470] *Аркуш не нумараваны. Тэкст адсутнічае.*

[471] *Аркуш не нумараваны, падклеены да фарзацнага аркуша ніжняй накрыўкі. Змяшчае завяральныя запісы супрацоўнікаў ЦГАДА (РГАСА) (1939—1957 гг., Масква), чрнл. штамп, графы запоўнены інш. поч. і чрнл.:*

Ц Г А Д А *падкрэсленне штампа* |

ОФЦУ (РСО) |

ФОНД № 389, Литовская метрика *графа запоўнена рукою* |

в настоящем ____________ № 560 *графа запоўнена рукою* |

пронумеровано листов ___________ 37 *графа запоўнена рукою* |

_______________________________________|

Литерные: ______________________________|

Пропущены: _____________________|

Чертежи: ______________________________|

ЦГАДА |
ПРОВЕРЕНО |
12.IV.1957 г. *інш. поч. і чрнл.* |
Подпись Кощраков |

ЦГАДА |
ПРОВЕРЕНО |
29.IX.1955 г. *інш. поч. і чрнл.* |
Подпись *(неразборліва)*

ЦГАДА |
ПРОВЕРЕНО |
7.X.1957 г. *інш. поч. і чрнл.* |
Подпись Беляева *інш. поч. і чрнл.* ||

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

## Гістарычныя, гісторыка-геаграфічныя і археаграфічныя тэрміны

адмін. – адміністартыўны (--ая)
Асв. – асвейскі
Асв. вол. – Асвейская воласць, Асвейскай воласці
б., б-ня, б-ры – баярын, баярыня, баяры (гаспадарскія)
б. пут. – баярын путны
Брасл. пав. (вол.) – Браслаўскі павет (Браслаўская воласць), Браслаўскага павета (Браслаўскай воласці)
в. – вёска
ваяв. – ваяводства
*вер.* – верагодна
Вілен. – віленскі, віленскага
Віцеб. вобл. – Віцебская вобласць
ВКЛ – Вялікае Княства Літоўскае
вкл – Вялікі князь Літоўскі
воз. – возера
вол. – воласць
г. – год
гасп. – гаспадарскі, гаспадарскія
гор. – горад
г/п – гарадскі пасёлак
*гл.* – глядзі
Гродз. – гродзенскі (-ая)
Даўгаўп. пав. – Даўгаўпілскі павет Латвійскай Рэспублікі
дзярж. – дзяржаўная (-ы)
друйск. – друйскі
Друйск. вол. – Друйская воласць (Друйскай воласці)
Дрысв. – дрысвяцкі, дрысвяцкія
Дрысв. пав. (вол.) – Дрысвяцкі павет (Дрысвяцкая воласць), Дрысвяцкага павета (Дрысвяцкай воласці)
Дынаб. – дынабургскі, дынабургскага
Жам. – жамойцкі
з. – зямля
з. пуст. – зямля пустая, пустка
зам. – замак
зям. – зямянін, зямянка
кн. – князь
лат. – латышскі, латышская мова
Лат. Р. – Латвійская Рэспубліка
Лід. пав. – Лідскі павет, Лідскага павету

літ. – літоўскі, літоўская мова
Літ. Р. – Літоўская Рэспубліка
Майшаг. пав. – Майшаголскі (-ага) павет (-у)
Меміж. пав. – Меміжскі (-ага) павет (-у)
мешч. – мешчанін
мяст. – мястэчка
пав. – павет, павету
Полац. – полацкі, полацкага
поч. – почырк, почыркам
р. – рака
рас. – расійскі
РБ – Рэспубліка Беларусь
р-н – раён
РП – Рэч Паспалітая
руч. – ручай
РФ – Расійская Федэрацыя
с. – сяло
Себеж. вол. – Себежская воласць Маскоўская дзяржавы (Расіі)
сел. – селішча
Смолв. пав. (вол.) – Смолвенкі (-ага) павет (-у) (воласць, -і)
с/с – сельскі Савет
Троц. – троцкі
ц. – цэнтр
чал. – чалавек
чрнл. – чарнілы (атрамант), чарніламі
чэл. (няв.) – чэлядзь (нявольная)
шл. – шляхчыц
ЭР – Эстонская Рэспубліка
эст. – эстонскі (-а)

## Сімвалы

* — дата нараджэння (у генеалогіі).
✞ — дата скanання (у генеалогіі).

## Архіўныя крыніцы і літаратура

*Арх. ЮЗР – Архив Юго-Западной России*. Ч. I—VIII. Киев,1859—1914.

*Блакітная кніга – Блакітная кніга Беларусі (Водныя аб'екты Беларусі). Энцыклапедыя*. Мн.: Беларуская энцыклапедыя, 1994.

Булыка. *Даўнія запазычанні* – Булыка А. М. *Даўнія запазычанні беларускай мовы*. Мн.: Навука і тэхніка, 1972.

Булыка. *Лексічныя запазычанні* – Булыка А. М. *Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII ст.* Мн.: Навука і тэхніка, 1980.

Варонін – Варонін В. А. Звесткі пра Барысаў камень з першай паловы XVI ст. // *Гісторыка-археалагічны зборнік*. № 15. Мн., 2000. С. 126—127.

Горбачевскій – Горбачевскій Н. *Словарь древняго актоваго языка Сѣверо-Западнаго края і Царства Польскаго*. Вильна: Тип. А. И. Зака, 1874.

Груша, *Канцылярыя* – Груша А. І. *Канцылярыя Вялікага княства Літоўскага 40-х гадоў XV – першай палове XVI ст.* Мн.: Беларуская навука, 2006.

*ГСБМ – Гістарычны слоўнік беларускай мовы* / Рэд. А. І. Жураўскі, А. М. Булыка. Вып. 1—26. Мн.: Навука і тэхніка (Беларуская навука), 1982—2006.

Казлоў—Цітоў – Казлоў Л. Р., Цітоў А. К. *Беларусь на сямі рубяжах*. Мн., 1993.

Каштанов – Каштанов С. М. *Актовая археография*. М.: Наука, 1998.

Лаучюте – Лаучюте Ю. А. *Словарь балтизмов в славянских языках*. Ленинград: Наука, Ленинградское отделение, 1982.

*ЛМ-5* – Метрыка ВКЛ, Кніга запісаў 5: *РГАДА*, Ф. 389, оп. 1, д. 5; *НГАБ*, КМФ-18, воп. 1, спр. 5.

*ЛМ-223* – Метрыка ВКЛ, Кніга судовых справаў 3: *РГАДА*, Ф. 389, оп. 1, д. 223; *НГАБ*, КМФ-18, воп. 1, спр. 223.

*ЛМ-525* – Метрыка ВКЛ, Кніга публічных спраў 3: *РГАДА*, Ф. 389, оп. 1, д. 525; *НГАБ*, КМФ-18, воп. 1, спр. 525.

*ЛМ-528* – Метрыка ВКЛ, Кніга публічных спраў 7: *РГАДА*, Ф. 389, оп. 1, д. 528; *НГАБ*, КМФ-18, воп. 1, спр. 528.

*ЛМ-566* – Метрыка ВКЛ, Кніга перапісаў 9: *РГАДА*, Ф. 389, оп. 1, д. 566; *НГАБ*, КМФ-18, воп. 1, спр. 566.

Любавский, *Областное деление* – Любавский М. К. *Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания Первого Литовского Статута. Исторические очерки*. М., 1892.

*Метрыка-43 – Метрыка Вялікага Княства Літоўскага. Кніга 43 (1523—1560 гг.): Кніга запісаў 43 (Копія канца XVI ст.)* / Падрыхтаваў В. С. Мянжынскі. Мн.: Беларуская навука, 2003.

*Метрыка-523 – Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 года. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кн. 523. Кн. публічных спраў 1* / Падрыхтавалі А. І. Груша, М. Ф. Спірыдонаў, М. А. Вайтовіч. Мн.: Беларуская навука, 2003.

*Метрика-561 – Литовська Метрика. Книга 561. Ревізії українськіх замків 1545 року* / Підготував Володимир Кравченко; НТШ в Америці; НТШ в Україні; НАНУ, Інститут української археографії та джерелознавства ім. М. С. Грушевського. Київ, 2005. (Архівні джерела, т. 7).

Нарбут – Нарбут А. Н. *Генеалогия Белоруссии*. Вып. 1—4. М., 1995—1996.

Насевіч – Насевіч В. Л. *Генеалагічныя табліцы старадаўніх княжацкіх і магнацкіх беларускіх родаў 12—18 стагоддзяў*. Мн.: Беларуская энцыклапедыя, 1993.

Насовіч – Насовіч І. І. *Слоўнік беларускай мовы*. Мн.: БелЭн, 1983. (Факсіміле з выдання: Носовичъ И. И. *Словаръ бѣлорусскаго нарѣчія*. СПб.: Тип. Имп. АН, 1870).

*НА* – Беларусь у другой палове XVI ст. Карта. 1 : 1 500 000 [Аўтар М. Спірыдонаў] // *Нацыянальны атлас Беларусі*. Мн.: РУП „Белкартаграфія", 2002. Карта № 266.

НГАБ – Нацыянальны Гістарычны Архіў Беларусі (у Мінску).

Оглоблин – Оглоблинъ Н. Н. Объяснительная записка къ карте Полоцкаго повета во 2-й половине XVI-го века *// Сборникъ Археологическаго института*. СПб., 1880. Кн. III, Отделеніе II. С. 3—53; Кн. IV, Отделеніе II. С. 3—75.

*Писцовые книги – Писцовые книги Московскаго государства. Часть 1. Писцовые книги XVI века. Отд. II* / Подъ ред. Н. В. Калачова. СПб.: Изд-е Императорскаго Русскаго Географическаго общества, 1877.

*Полоцкая ревизия – Полоцкая ревизия 1552 г.* / Подг. И. И. Лаппо. М., 1905.

Прыгодзіч, Ціванова – Прыгодзіч М. Р., Ціванова Г. К. *Старабеларускі лексікон: Падручны перакладны слоўнік*. Мн.: Бел. выд. тав-ва "Хата", 1997.

Пташицкій. *Описаніе книгъ* – Пташицкій С. Л. *Описаніе книгъ и актовъ Литовской Метрики*. СПб., 1887.

РГАДА – Российский Государственный Архив Древних Актов / Расійскі Дзяржаўны архіў Старажытных Актаў (Масква).

*РИБ, т. 30 – Литовская Метрика. Отделъ первый-второй. Часть третья: Книга публичных делъ. Томъ первый // Русская историческая библіотека*. Т. 30. Юрьев, 1914.

РНБ – Российская Национальная Библиотека / Расійская Нацыянальная Бібліятэка (Санкт-Пецярбург).

*СБГПЗБ – Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча*: У 5 т. Мн.: Навука і тэхніка, 1979—1986.

Скурат. *Меры* – Скурат К. У. *Даўнія беларускія меры (лексічны аналіз)*. Мн.: Навука і тэхніка, 1974.

Спірыдонаў, Беларусь – Спірыдонаў, Міхаіл. Беларусь на карце Вялікага княства Літоўскага 1613 г. // *З глыбі вякоў. Наш край: Гіст.-культуралаг. зб*. Вып. 2. Мн., 1997. С. 133—195.

Спірыдонаў, Полаччына – Спірыдонаў, Міхаіл. Полаччына ў сярэдзіне XVI ст. // *Commentarii Polocenses Historici*. Т. I, 2004. С. 5—19.

*Старабеларускія лексіконы – Старабеларускія лексіконы*: («Лексисъ съ толкованіемъ словенскіхъ мовъ просто», «Лексис…» Л. Зізанія, «Синонима славенороссская») / Укладанне, рэканструкцыя, сучаснае правапісна-

графічнае ўпарадкаванне тэкстаў, прадмова, пасляслоўе і каментарыі Алены А. Яскевіч. Мн.: Універсітэцкае, 1992.

*ТСБМ – Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы* / Пад рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко. Мн.: БелЭн, 1996.

Шеломанова – Шеломанова Н. Б. Себежская земля в XVI в.: (Историко-географический обзор) // *Археографический ежегодник за 1967 г.* М., 1969.

Шыдлоўскі, Друя – Шыдлоўскі, Канстанцін. Друя // *Спадчына*. 1990, № 2. С. 59—60.

*ЭГБ – Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.* У 6 т. Т. 1—6. Мн.: БелЭн, 1993—2003.

*ЭнцВКЛ – Вялікае Княства Літоўскае: Энцыклапедыя*. У 2 т. Мн.: БелЭн, 2005—2006.

Яшкін. *Назвы* – Яшкін І. Я. *Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія*. Мн.: Навука і тэхніка, 1971.

Яшкін, *Слоўнік* – Яшкін І. Я. *Слоўнік беларускіх мясцовых геаграфічных тэрмінаў: Тапаграфія. Гідралогія.* Мн.: Беларуская навука, 2005.

Aleksandrowicz, *Rozwój* – Aleksandrowicz S. *Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku* / 2 wyd., popr. i uzup. Poznań, 1989. (Uniwersytet im. Adama Mickiewicza. Seria Historia, Nr. 138).

Aleksandrowicz, Geneza – Aleksandrowicz S. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. // *Acta Baltiko-Slavica*. T. 7. Białystok, 1970. S. 47—10

Arbusow – Arbusow L. *Grundriss der Geschichte Liv-, Est-, und Kurlands*. Riga, 1918.

*Archiwum Sanguszków – Archiwum ksążąt Lubartowiczów Sanguszków w Sławucie*. T. 1—7. Lwów, 1887—1910.

AGAD – Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie:

AGAD, AR – Archiwum Radziwiłłowskie;

AGAD, ML – Metryka Litewska (транслітэраваная; Кнігі 191A — 219);

AGAD, Tzw. ML – Tak zwana Metryka Litewska.

Błaszczyk, *Diecezja żmudzka* – Błaszczyk G. *Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: Ustrój*. Poznań, 1993.

Boniecki, *Herbarz* – Boniecki A. *Herbarz polski.* Cz. 1: Wiadomości historyczno-genealogiczne o rodach szlachieckich. T. I—XVI. Warszawa, 1899—1913.

Boniecki, *Poczet* – Boniecki A. *Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku*. Warszawa, 1887.

*Deputaci Trybunału – Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1697—1794). Spis* / Pod redakcją Andrzeja Rachuby; Opracowali Andrzej Rachuba i Przemysław P. Romaniuk przy współpracy Andreja

Macuka i Jewgienija Aniszczenki; Instytut Historii Polskiej Akademii Nauk. Warszawa, 2004.

Dogiel, *CD-5* – Dogel M. *Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lituaniae, in quo pacta, foedera, tractatus pacis… aliaque omnis generis publico nomine actorum et gestorum monumenta nunc primum ex archivis publicis eruta… rebus ordine chronologico dispositis exhibentur*. T. V: In quo ut universae Livoniae, ita speciatim Curlandiae et Semigalliae Ducatum res continetur. Vilnae, 1759.

Dogiel, *Limites* – Dogel M. *Limites Regni Poloniae et Magni Ducatus Litvaniae ex originalibus et exemplis authenticis descript et in lucem editi*. Vilnae, 1758.

Grimsted, Sułkowska–Kurasiowa. *The "Lithuanian Metrica"* – Grimsted P. K., Sułkowska–Kurasiowa I. *The "Lithuanian Metrica" in Moscow and Warsaw: Reconstruction the Archives of the Grand Duchy of Lithuania*. Cambridge (Massachusetts, USA), 1984.

Hedemann, *Historja* – Hedemann O. *Historja powiatu brasławskiego*. Wilno, 1930.

Hedemann, *Miasta* – Hedemann O. *Dzisna i Druja, magdeburskie miasta*. Wilno, 1934.

*LM-5 – Lietuvos Metrika – Lithuanian Metrica – Литовская Метрика. Kn. 5 (1427—1506): Užrašymų knyga 5* / Parengė Egidijus Banionis. Vilnius, 1993.

*LM-8 – Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica = Литовская Метрика. Knyga Nr. 8 (1499—1514): Užrašymų knyga 8* / Parengė Algirdas Baliulis, Romualdas Firkovičius, Darius Antanavičius. Vilnius: Mokslo ir enciklopedijų leidykla, 1995.

Militzer – Militzer, Klaus. Wykaz urzędów Zakonu Kawalerów Mieczowych i zakonu krzyżackiego w Inflantach z Estonią // *Inflanty w średniowieczu. Władztwa zakonu krzyżackiego i biskupów* / Pod. red. M. Biskupa. Toruń, 2002. S. 107—121.

Natanson Leski – Natanson Leski, Jan. *Dzieje granicy Wschodniej Rzeczypospolitej*. Cz. 1: Granica Moskiewska w epoce Jagiellońskiej. Lwów; Warszawa, 1922.

Ochmański, *Biskupstwo wileńskie* – Ochmański J. *Biskupstwo wileńskie w średniowieczu: Ustrój i upisażenie*. Poznań, 1972.

*PSB — Polski słownik biograficzny*. T. I–XXXVII. Kraków–Warszawa, 1935—1998.

Radzimiński – Radzimiński, Andrzej. Podziały kościelne Inflant z Estonią // *Inflanty w średniowieczu. Władztwa zakonu krzyżackiego i biskupów* / Pod. red. M. Biskupa. Toruń, 2002. S. 17—42.

S…cki – S…cki. Dostojnicy litewscy. Rozbiór krytyczny i uzupełnienie dzieła J. Wolfa „Senatorowie" // *Ateneum*. T. I, 1886. S. 150—164.

*Sapiehowie* – [Gorczak B.] *Sapiehowie. Materjały historyczno-genealogiczne i majątkowe*. T. I—III. S.-Petersburg, 1891.

Semkowicz – Semkowicz, Władysław. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413 // *Lithuano-Slavica Posnanensia*. Studia Historica. T. III, 1989. S. 7—139.

*SG – Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich* / Pod redakcją Filipa Sulimierskiego, Bronisława Chlebowskiego i Władysława Walewskiego. T. 1—15. Warszawa, 1880—1902 (Electronic facsimile edition: Conceived and edited by Rafał T. Prinke, with additional materials by William F. Hoffman. Chicago, USA: Polish Genealogical Society of America, 2002).

Stern – Stern, C. v. Livlands Ostgrenze im Mittelalter von Peipus bis zu Düna // *Mitteilungen aus der livländischen Geschichte*. Bd. 23. Riga, 1924—1926.

*Urzędnicy centralni – Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVIII wieku.* Spisy / Oprac. Henryk Lulewicz i Andrzej Rachuba // *Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku.* Spisy / Pod red. Antoniego Gąsiorowskiego. Tom XI. Kórnik: Biblioteka Kórnicka, 1994.

*Urzędnicy wileńskie – Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. Spisy. T. I: Województwo wilenskie, XIV—XVIII wiek* / Pod red. A. Rachuby; Oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba, P. Romaniuk, przy współpracy U. Jemialianczyk, A. Macuk. Warszawa, 2004.

Wojtkowiak. *Delimitacja* – Wojtkowiak Z. Delimitacja litewsko-kurlandzka z 1584 roku // *Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica.* 1989, T. 3. S. 267—276.

Wojtkowiak. *Dryświaty* – Wojtkowiak Z. Dryświaty – rubież litewska w średniowieczu // *Lituano-Slavica Posnaniensia. Studia Historica*. 1985, T. 1. S. 115—139.

Wojtkowiak, *Lithuania* – Wojtkowiak, Zbysław. *Lithuania Transwilniensis saec. XIV—XVI. Podziały Litwy Północnej w późnym średniowieczu*. Poznań: Wydawnictwo Poznańskie, 2005.

Wojtkowiak, Urzędnicy – Wojtkowiak, Zbysław. Urzędnicy zarządu lokalnego na Litwie. Tytulatura zarządców powiatowych przed reformą administracyjną z lat 1565—1566 // *Studia Źródłoznawcze*. T. XXIV, 1979. S. 139—155.

Wolff, *Kniaziowie* – Wolff J. *Kniaziowie litewsko-ruscy od końcu czternastego wieku.* Warszawa, 1895.

Wolff, *Senatorowie i dygnitarze* – Wolff J. *Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego 1386—1795*. Kraków, 1885.

# АДЗІНКІ КОЛЬКАСЦІ І ВЫМЯРЭННЯ

## Адзінкі ліку і колькасці

Найбольш папулярная лікавая адзінка не дзесятковай сістэмы – **капа:** 1. адзінка лічэння – 60 аднародных прадметаў (штук); 2. грашовая адзінка ў 60 грошаў. Апроч грошаў (пенязей) капа актыўна выкарыстоўвалася для падлікаў зерневых культураў у снапах: жыта, пшаніцы, ячмяню, грэчкі, аўсу.

Асноўны падлік веўся паводле дзесяткавай сістэмы, але для пэўных з’яваў аграрнай вытворчасці выкарыстоўваліся спецыфічныя адзінкі ліку: **саха** – адзінка вымярэння колькасці рабочай жывёлы (найперш, валоў); лемехі лічыліся **парамі** (дваічная сістэма); сена **вазамі**; мяса – **полцямі**. Збожжавыя таксама маглі лічыцца **пераплётамі** (прыстасаванне са слупоў і жэрдак для дасушвання збажыны). Ступень тэрміналагізацыі гэтых вызначэнняў не зусім зразумелая. У любым выпадку яны характарызуюцца полісеміяй.

Грошы ў копах (60 грошаў) лічыліся ў “гатовых пенезях” – гэта значыць у рэальных манетах, а не ў лікавым эквіваленце. Радзей выкарыстоўвалася паняцце **рубель** – грашова-лікавая адзінка, адпаведная 100 грошам ВКЛ (ці 125 польскім грошам).

Апроч таго, для пазначэння агульнай колькасці чаго-небыць выкарыстоўвалася паняцце **сума**.

## Адзінкі масы

**Бе́ркавец** – мера масы. Пашыраным быў беркавец, роўны 12 пудам, альбо 500 фунтам (адпавядае 163,80 кг). Ужываўся таксама беркавец у 5 камянёў, ці 200 фунтаў (74,95 кг). Беркавец выкарыстоўваўся для важання мёду.

Таксама мёд (з удакладненнем “прэсны” – у адрозненні ад пітнога) узважваўся **пудамі** (16,3799 кг).

Для вызначэння масы сыпучых рэчываў (на прыкладзе Кнігі № 560 – попелу) выкарыстоўваўся **лашт**. Гэтая адзінка масы была роўная прыблізна 2 т. (польскі лашт змяшчаў 30 варшаўскіх карцаў ці, адпаведна, 2107—2124 кг; літоўскі лашт змяшчў 45 пур, ці 4725 фунтаў, і складаў каля 120 пудоў, ці 1965,588 кг).

## Адзінкі аб’ёму

**Бочка** – мера сыпкіх і вадкіх рэчываў, роўная 406,54 л. Гэта адная з самых ужываных мераў і велічыня бочкі як адзінкі вымярэння была неаднолькавая ў розных рэгіёнах ВКЛ. Статуты ВКЛ 1566 і 1588 гг. прыраўновалі бочку ВКЛ (літоўскую, віленскую) да кракаўскай з 4 карцоў. Таксама бочка выступала як мера зямельнай плошчы, роўная бочцы засеянага зерня. Паводле матэрыялаў Кнігі № 560 бочкамі вымяраліся аб'ёмы зерневых культураў, а таксама селядцы.

## Адзінкі вымярэння адлегласці

**Вярста** – мера даўжыні, роўная 798 сажням (1559,6 м). 5 вёрст складалі 1 **мілю** (7798 м).

**Вялікая вярста** роўная 1000 сажням (1948,2 м). 5 вялікіх вёрст адпаведна складалі 1 **вялікую мілю**.

У ВКЛ у XVI—XVII ст. **міля** складалася з 300—315 шнуроў або 13230—16300 локцяў.

## Адзінкі вымярэння даўжыні

**Локаць** адна з асноўных адзінак вымярэння даўжыні, якая адпавядае даўжыні рукі ад лакцявога згіну да канца сярэднага пальца, роўная 0,6496 см. У Кнізе № 560 локцямі вымяралася сукно.

50 локцяў складалі 1 **пастаў** (32,48 м).

Выкарыстаныя метралагічныя і лінгвістычныя даследаванні:

Гольдштейн С. Древняя метрология // Гольдштейн С. *Польско-литовские древности*. СПб., 1913.

Каменцева Е. И., Устюгов Н. В. *Русская метрология* / 2 изд. М., 1975.

Малчанава Л. А. *Народная метралогія: (Да гісторыі народных мер даўжыні)*. Мн., 1973.

Петрушевский Ф. *Общая метрология*. Ч. 1—2. СПб., 1849.

Петрушевский Ф. *Польские меры, или Описание польских мер, весов и монет* / 2 изд. СПб., 1834.

Скурат К. У. *Даўнія беларускія меры (лексічны аналіз)*. Мн., 1974.

Шостьин Н. А. *Очерки истории русской метрологии, XI – начало XX в.* / 2 изд. М., 1990.

Черепнин Л. В. *Русская метрология*. М., 1944.

Юревич Е. К., Янович Е. И. Из истории метрологической лексики // *Вопросы этнографии Белоруссии*. Мн., 1964. С. 68—79.

Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Старажытныя беларускія меры // *Беларускае і славянскае мовазнаўства*. Мн., 1972. С. 286—303.

Dunin-Wąsowicz A. *Pomiary gruntu w Koronie w XVI—XVIII wieku*. Warszawa, 1994.

Kula W. Metrologia historyczna // *Przegląd Historyczny*. 1959, z. 2.

Kula W. *Miary i ludzie*. Warszawa, 1970.

Szymański J. Metrologia // Szymański J. *Nauki pomocnicze historii* / 6 wyd. Warszawa, 2004. S. 154—199.

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

У слоўнік уключаны словы, разуменне семантыкі якіх можа быць складаным для чытача. Словы прыводзяцца ў сваіх зыходных формах: назоўнікі і прыметнікі – у назоўным склоне адзіночанга ліку; дзеясловы – у інфінітыве. Рэестравае слова падаецца ва ўніфікаванай форме з улікам арфаграфіі напісання ў старабеларускай мове, але сучаснымі літарамі. У дужках пазначаны варыянты напісання слова паводле іншых крыніцаў. Значэнні словаў пераважна раскрываюцца адпаведным лексічным эквівалентам сучаснай беларускай мовы, але часам тлумачэнні робяцца апісальна, калі тлумачацца рэаліі і паняцці, якія ў пазнейшы час выйшлі з ужытку.

Скарачэнні:

*дзеепр.* – дзеепрыслоўе
*дзеясл.* – дзеяслоў
*зл.* – злучнік
*ліч.* – лічэбнік
*мн л.* – множны лік
*наз.* – назоўнік
*прым.* – прыметнік
*прыназ.* – прыназоўнік
*прысл.* – прыслоўе
*словазл.* – словазлучэнне

**А** *зл.* І, ды *(пры спалучэнні аднародных членаў сказа і сказаў)*
**Абысмы** *зл.* ***а*** *ў спалучэнні з формамі аорыста дзеясл.* ***быти*** Каб

**Белинный (беленный, белиний, белиный)** *прым.* Вавёркавы
**Берковец** *наз*. Мера вагі, прыблізна роўная 75 кг
**Бирати** *дзеясл., шматкротнае ад* ***брати***. Браць, збіраць, нарыхтоўваць (“лубя бирали”)
**Брамка, бранка** *наз.* Жаночы галаўны ўбор, упрыгожаны перламі.
**Братанич** *наз.* Сын брата, пляменнік
**Буда** *наз.* 1. Лясное прадпрыемства для перапрацоўкі драўніны; смалакурня; 2. Шалаш, будан

**Валахъ (валохъ)** *наз.* Кастрыраваны конь
**Вепръ** *наз.* 1. Вяпрук; 2. Дзік
**Весполокъ (весполъ)** *прысл.* Разам, супольна, сумесна
**Вживати (уживати)** *дзеясл.* Ужываць, выкарыстоўваць

**Волочити [озеро]** *дзеясл.* Лавіць рыбу невадам або сеткай у возеры (сажалцы)
**Волъна (вовна)** *наз.* Воўна
**Врадникъ, урадникъ** *наз.* Службовец, чыноўнік
**Выбирати** *дзеясл.* Адбіраць, забіраць
**Выстинати** *дзеясл.* Пакараць, сцяць, абезгаловіць (сінонім **Постинати**)

**Гонити [бобры]** *дзеясл.* Займацца бабровым промыслам
**Головъщина** *наз.* 1. Забойства; 2. Штраф за забойства
**Госпадаръ, господаръ** *наз.* Гаспадар, валадар, Вялікі князь Літоўскі

**Дворецъ** *наз.* Маёнтак, сядзіба
**Держава** *наз. (тут)* Дзяржаўнае замельнае ўладанне ў ВКЛ у XV—XVIII ст., якое знаходзілася ў распараджэнні пэўнай асобы
**Державца** *наз.* Адміністратар дзяржавы (**державы**)
**Доброволъне** *прысл.* Свабодна, бесперашкодна
**Доломанъ (даламанъ)** *наз.* Кароткі мужчынскі плашч з рукавамі
**Долъгость** *наз.* Даўжыня

**Жадный** *займ.* Ніхто, ніводзін, ніякі
**Жаловати** *дзеясл.* Скардзіцца, складаць скаргу на каго-н.
**Жупица** *наз.* Камізэлька

**Забранье** *наз.* Забраныя, захопленыя тэрыторыі
**Загамовати** *дзеясл.* 1. Затрымаць; 2. Спыніць развіццё чаго-н.
**Затесати** (земли) *дзеясл.* Зрабіць засечку (*перан.* захапіць зямлю)
**Зброя суполъ(ь)ная (зупольная)** *словазлуч.* Зброя ў поўным камплекце (гл. *ГСБМ*, Вып. 12, с. 44)

**Ижъ, иже** *зл.* 1. Што; 2. Бо, таму што; 3. Калі
**Ино** *зл.* 1. А, і; 2. Але, аднак

**Казити** *дзеясл.* Парушаць, псаваць, нішчыць
**Калита** *наз.* Кашэль, торбачка для захавання грошай, дакументаў і розных дробных прадметаў
**Камъбаръский** *прым.* Выраблены ў горадзе Камбрэ (Cambrai), які гістарычна належаў да Заходняй Фландрыі, а цяпер знаходзіцца на Поўначы Францыі (дэпартамент Нор); традыцыйны цэнтр вырабу карункаў і батысту (тонкай паўпразрыстай тканіны з ільняной ці баваўнянай пражы)
**Кгрунтъ** *наз.* Зямля, зямельная ўласнасць, зямельнае ўладанне
**Кляча** *наз.* Кабыла

**Колтришъ (колтрышъ)** *наз.* Сукно ніжэйшага гатунку

**Коновъ, конва, коневъ** *наз.* Збан, бідон

**Копа** *наз.* 1. Адзінка лічэння – 60 аднародных прадметаў (штук); 2. Грашовая адзінка ў 60 грошаў

**Копецъ, капецъ** *наз.* 1. Межавы знак у выглядзе насыпу са слупом, альбо груды камення; 2. Курган, узгорак

**Кроть** *наз.* Раз, разоў

**Кубелъ**, *мн. л.* **кубълы** наз. Скрыня, куфар для захоўвання адзення, тканіны і г. д.

**Кунъторъ** *наз.* Комтур (кіраўнік адміністрацыйнай акругі Нямецкага ордэна, у дадзеным выпадку – у Лівоніі)

**Лаштъ** *наз*. Адзінка вагі сыпучых рэчываў, роўная прыблізна 2 т. [1]

**Лечъ, лечь** *зл.* А, але, ды; і (у пачатку новага сказа)

**Локоть, локотъ** *наз.* Мера, якая адпавядае даўжыні рукі ад лакцявога згіну да канца сярэднага пальца, роўная 64,96 см. Найчасцей ужывалася пры вымярэнні тканіны, а таксама ў будаўніцтве

**Лотыгола**, **латыгола** *наз., зборнае ад* **Латыголъ**. Латгалы, карэнныя жыхары паўднёва-ўсходняй Латвіі

**Лотъва** *наз.* Латышы; назва карэннага балцкага насельніцтва Лівоніі

**Лубъ, лубье** *наз.* Луб, кавалак, паласа лубу (кары ліпы, вяза)

**Лунский (луньский**, **лунъский**, **люнский)** *прым.* Зроблены з англійскага (лонданскага) сукна

**Маршалок господарский** *словазл.* Маршалак гаспадарскі, ураднік пры двары Вялікага князя

**Мед пресный** *словазл.* Натуральны мёд, у адрозненне ад мядовага алкагольнага напою

**Межи** *прыназ.* Паміж

**Могила** *наз., тут* Насып, курган

**Могорича** *наз*. Магарыч – пачастунак, што наладжваецца як узнагарода ў сувязі з выгаднай здзелкай (“могоричу пити”)

**Московский** *прым. у значэнні наз.* Вялікі князь Маскоўскі, Маскоўская дзяржава

**Намедца (наметецъ, наметка)** *наз.* Намітка (галаўны ўбор замужніх жанчынаў з доўгага вузкага кавалка тканіны, які спецыяльным чынам павязваўся на галаве)

**Наполовица** *наз.* Палова аркуша паперы (дакумента)

---

[1] Гл. падрабязней: Шостьин Н. А. *Очерки истории русской метрологии, XI – начало XX в.* М., 1990. С. 82; Анішчанка Я. Лашт // *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі*: У 6 т. Т. 4. Мн., 1997. С. 342.

**Немцы** *наз.* (тут) Лівонія
**Несталость** *наз.* (тут) Нез’яўленне на камісарскую сэсію, у суд
**Нижъли** *зл.* Але, аднак

**Обесити** *дзеясл.* Павесіць, пакараць смерцю
**Однорадка** *наз.* Аднарадка, аднабортны даўгаполы каптан
**Одрина (одрына)** *наз.* Адрына, пуня
**Озередъ, озеродъ** *наз.* Азярод – прыстасаванне для прасушкі снапоў, сена
**Оказыватися** *дзеясл.* Паказвацца, з’яўляцца
**Окромъ** *прыназ.* Акрамя, апрача
**Окупъ** *наз.* Выкуп

**Паметухъ, памятухъ** *наз.* Чалавек, які памятае пра нейкія падзеі; сведка
**Панъство** *наз.* Дзяржава
**Парпянъ (парпьянъ, пурпуриянъ)** *наз.* Тканіна пурпурнага, цёмна- альбо ярка-чырвонага колеру
**Пахоликъ, пахолекъ, пахолокъ** *наз.* 1. Слуга; 2. Жаўнер
**Пенези, пенязи** *наз. мн.* Грошы
**Пенези готовыи** *наз. мн.* Манеты, грошы ў наяўным выглядзе, у адрозненне ад пенязей як грашовага ліку
**Переворотъе** *наз.* Пераволока – месца, дзе што-небудзь пераволаквалі (човен, сеці)[2]
**Перенемъшы** *дзеепр.* Пераняўшы
**Переплотъ (переплетъ)** *наз.* Азярод; прыстасаванне са слупоў і жэрдак для дасушвання збажыны. Можа выступаць як мерная адзінка
**Пешъня** *наз.* Род долата, пешня
**Платье (платие, плаце)** *наз.* Агульная назва вырабаў з тканіны; адзенне
**Платье белое** – Бялізна (нацельнае адзенне)
**Плебан** *наз.* Плябан, у Рыма-Каталіцкай Царкве парафіяльны святар
**Подчаший** *наз.* Ганаровая прыдворная пасада
**Поколькукроть** *дзеепр.* Неаднаразова, шматразова
**Полосъмадесятъ** *ліч.* Семдзесят пяць
**Полъпета** *дробавы ліч.* Чатыры з паловай
**Полътораста** *ліч.* Паўтараста
**Полътретядъцать** *ліч.* Дваццаць пяць
**Полъть (полоть)** наз. Палова мясной тушы, рассечанай удаўжыню; вялікі кавалак мяса

[2] Яшкін І. Я. *Беларускія геаграфічныя назвы*. С. 141.

**Попелъ** *наз.* Попел; з драўнінага попелу (хлорыстага калію) здабываўся паташ (карбанат калія $K_2CO_3$) – белы зярністы парашок, рэчыва са шчалачнымі ўласцівасцямі, неабходнае ў тэхналогіі тагачасных шкларобчых, мылаварных і фарбавальных працэсах

**Поставъ** *наз.* 1. Кавалак тканіны; 2. Адзінка колькасці тканіны, роўная 50 локцям

**Постинати** *дзеясл.* Пакараць, сцяць, абезгаловіць (сінонім **Выстинати**)

**Потъкати** *дзеясл.* Спаткаць, сустрэць

**Почынити** *дзеясл.* Учыніць, здзейсніць, зрабіць

**Права (просити)** *наз.* (тут) Суд, судовая справа (патрабаваць судовага разгляду)

**Прихожий** *прым. у знач. наз.* 1. Староннi чалавек; 2. Работнік

**Пробощ** *наз.* Пробашч, у Рыма-Каталіцкай Царкве ксёндз – кіраўнік парафіі, ніжэйшай царк.-адм.-тэр. адзінкі

**Проробка** *наз.* Прасе́ка

**Простица** *наз.* Прасціна, прасцірадла

**Пустовъщина** *наз.* 1. Неўрадлівая зямля; 2. Запушчанае, занядбанае поле альбо лес

**Рачити** *дзеясл.* 1. Жадаць; 2. Згаджацца

**Рикунья** *наз.* Даглядчыца жывёлы

**Рогатина** *наз.* Рагаціна, дрэўкавая зброя, від кароткага кап'я з пляскатым шырокім наканечніка[3]

**Розбити** *дзеясл.* Абрабаваць, забраць

**Роскazанье** *наз.* Загад

**Руно** *наз.* Адзінка колькасці воўны

**Ручница** *наз.* Ручная агняпальная зброя, пішчаль[4]

**Само** *прысл.* (тут) Разам, разам з

**Самъдругой** *прысл.* Удвух, удваіх, разам з кім-н. другім

**Свирепа** *наз.* Конь

**Сермяга** *наз.* Верхняе адзенне з грубага даматканага сукна

**Смальцованый** *прым.* Ад 'смаль' – 'пах гары' (Насовіч, с. 594)

**Солок** *наз., праўдападобна вытворнае ад* Солка – невялікі востраў у рацэ ці возеры; *магчыма, паходзіць ад літ.* sala 'востраў' (Лаучюте, с. 72; СБГПЗБ, т. 4, с. 519; Яшкін. *Слоўнік,* с. 621)

---

[3] Гл. падрабязней: Бохан Ю. М. *Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV – канца XVI ст.* Мн., 2002. С. 136—140, 288, мал. 11; Бохан Ю. *Зброя Вялікага княства Літоўскага 1385—1576.* Мн., 2003. С. 38—39.

[4] Гл. падрабязней: Бохан Ю. М. *Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV – канца XVI ст.* С. 196—203

**Соха** *наз.* 1. Прылада для апрацоўкі зямлі, саха; 2. Адзінка вымярэння колькасці рабочай жывёлы (найперш, валоў); 3. Адзінка падатковага абкладання, якая вымяралася колькасцю рабочай жывёлы

**Список** *наз.* (тут) Скарга, заява ў суд з пералікам прэтэнзій да спраўцы

**Старина** *наз*. Стары парадак рэчаў, старыя традыцыі

**Статокъ** *наз.* 1. Маёмасць; 2. Статак

**Стиръта** *наз*. Сціртa, вялікі стог сена, саломы, снапоў збожжа, прызначаны для захавання пад адкрытым небам

**Сукня** *наз*. 1. Адзежына; 2. Верхняе мужчынскае адзенне, капта; 3. Верхняе жаночае адзенне, сукенка з рукавамі і каўняром

**Суходол** *наз.* 1. Сенажаць на нізкім, але сухім месцы; 2. Роў з крутымі берагамі, які ўтварыўся ад веснавых вод

**Сущъ** *наз.* 1. Вязанка, звязак сушаных прадуктаў, напрыклад, рыбы (?). Магчыма, вытворнае ад Сушчавы *прым*. Худы (СБГПЗБ, т. 5, с. 29); 2. Гатунак рыбы

**Тивунъ** *наз.* Службовая асоба ў ВКЛ, якая кіравала гаспадарчымі справамі

**Торлопъ (торлепъ)** *наз*. Верхняя жаночая вопратка, футра

**Триногъ, тринога** *наз*. Трыножнік, падстаўка ў выглядзе жалезнага абруча на трох ножках, на якой гатуюць ежу на адкрытым агні, а таксама каркас, да якога падвешваюць кацёл над вогнішчам

**Хожъля** *наз.* тонкае дрэва, жэрдка

**Хоружичъ** *наз.* Сын харужага

**Цына (цина, цынъ, ценъ)** *наз.* Волава

**Чегнути** *дзеясл.* Цягнуць невад, рыбачыць

**Челедъ** *наз*. Слугі, хатнія слугі

**Черъленый** *прым.* Пафарбаваны ў чырвоны колер

**Чинити** *дзеясл.* Рабіць, дасягаць

**Широкость** *наз*. Шырыня

**Шкодовати** *наз*. (тут) Падлічваць страты

**Ярина** *наз*. 1. Гародніна; 2. Прадукт перапрацоўкі гародніны; 3. Яравыя (пра зерневыя культуры)

**Ярица** *наз*. Ярына; расліны, якія даюць ураджай у год пасеву

Лексікаграфічныя крыніцы:


1. Булыка А. М. *Даўнія запазычанні беларускай мовы*. Мн.: Навука і тэхніка, 1972.
2. Булыка А. М. *Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII ст*. Мн.: Навука і тэхніка, 1980.
3. *Гістарычны слоўнік беларускай мовы.* Вып. 1—26. Мн.: Беларуская навука, 1982—2006.
4. Горбачевскій Н. *Словарь древняго актоваго языка Сѣверо-Западнаго края і Царства Польскаго*. Вильна: Тип. А. И. Зака, 1874.
5. Лаучюте Ю. А. *Словарь балтизмов в славянских языках*. Ленинград: Наука, Ленинградское отделение, 1982.
6. Насовіч І. І. *Слоўнік беларускай мовы*. Мн.: БелЭн, 1983. (Факсіміле з выдання: Носовичъ И. И. *Словаръ бѣлорусскаго нарѣчія*. СПб.: Тип. Имп. АН, 1870).
7. Прыгодзіч М. Р., Ціванова Г. К. *Старабеларускі лексікон: Падручны перакладны слоўнік*. Мн.: Бел. выд. тав-ва “Хата”, 1997.
8. Скурат К. У. *Даўнія беларускія меры (лексічны аналіз)*. Мн.: Навука і тэхніка, 1974.
9. *Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча*: У 5 т. Мн.: Навука і тэхніка, 1979—1986.
10. *Старабеларускія лексіконы*: («Лексисъ съ толкованіемъ словенскіхъ мовъ просто», «Лексис…» Л. Зізанія, «Синонима славенороссская») / Укладанне, рэканструкцыя, сучаснае правапісна-графічнае ўпарадкаванне тэкстаў, прадмова, пасляслоўе і каментарыі Алены А. Яскевіч. Мн.: Універсітэцкае, 1992.
11. *Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы* / Пад рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко. Мн.: БелЭн, 1996.
12. Яшкін І. Я. *Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія*. Мн.: Навука і тэхніка, 1971.
13. Яшкін І. Я. С*лоўнік беларускіх мясцовых геаграфічных тэрмніаў: Тапаграфія. Гідралогія.* Мн.: Беларуская навука, 2005.

# ПРАДМЕТНА-ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

Паказальнік улучае ўсе тэрміны крыніцы і выконвае інфармацыйна-пошукавую функцыю. У паказальнік уключаныя ўсе знамянальныя словы – назоўнікі, дзеясловы, прыметнікі; асноўнымі адзінкамі паказальніка з’яўляюцца назоўнікі ў назоўным склоне і дзеясловы ў форме інфінітыва. Гэтыя словы вылучаныя тоўстым шрыфтам. Разам з адзіночнымі словамі прыведзены словазлучэнні тэрміналагічнага характару, назоўнікі дапаўняюцца аднароднымі прыметнікамі. У паказальнік уключаны таксама тапанімічны матэрыял, які выступае ў якасці прыметнікаў пры назоўніках. У асобных выпадках тэрміны падаюцца ва ўсіх арфаграфічных варыянтах (але сучаснымі літарамі), пры гэтым асноўным з’яўляецца варыянт, які складае норму старабеларускай пісьмовай мовы. Варыянты словаў даюцца праз касую рыску /, у круглым дужках **()** падаюцца вытворныя словы ці іншыя ўстойлівыям формы гэтага ж слова, у тым ліку з адзначэннем звартнай часціны **-се** / **-ся**, калі яна не заўжды ўжываецца пры даденым дзеяслове. Зорачкай ***** пазначаюцца ўскосныя прыгадкі. У выпадку шматзначнага значэння слова падаецца пераклад на сучасную беларускую мову ў тым значэнні, пад якім слова выступае ў крыніцы. Такія пераклады-ўдакладненні падаюцца ў квадратных дужках **[]**. Дробныя часткі цэлага (паўвярсты, паўмілі, паўчвэрці) улічваюцца ў асноўнай пазіцыі (цэлай адзінкі). Да асноўнага варыянту тэрміна робяцца адсылкі ад неасноўных варыянтаў. Адсылкі ад тэрмінаў да тэксту крыніцы робяцца паводле нумароў аркушаў Кнігі № 560.

## А



## Б

**Г**

## Д

**Е**



**Ж**

## З

## И

## Л

## М

## Н

**П**

**Р**

## С

**Т**



**У**

## Х

## Ц



## Ч

## Ы



## Я

# ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁНАЎ І АСОБАЎ

У паказальніку адзначаныя імёны, якія сустракаюцца ў тэксце крыніцы менавіта ў той час, калі Кніга № 560 была часткаю дзейнага архіва Канцылярыі ВКЛ – а гэта значыць на працягу XVI—XVII ст. Адсылкі да імёнаў, якія знаходзяцца ў тэксце Кнігі № 560, робяцца ў паказальніку на нумары аркушаў.

Непасрэдна ў Кнізе № 560 Метрыкі ВКЛ фігуруе 415 персаналія першай паловы XVI ст., г. з. людзі, названыя па імені ці пасадзе. У тэксце фігуруе 9 зборных паняццяў (асвейскія людзі, браслаўскія людзі, дрысвяцкія людзі, латыгола, немцы, пасланнікі гаспадарскія, пасланнікі лівонскія, Сапежыны людзі, Смолвенскія баяры), але, зыходзячы з кантэкста, гэтыя паняцці заўжды канкрэтныя і часта персаналізаваныя. З больш ранняга перыяду (XV ст.) рэгулярна прыгадваюцца Вітаўт і Радзівіл Осцікавіч, а таксама магістр Бернд фон дер Борх. Асобныя ўладныя роды апроч канкрэтных персаналіяў прадстаўленыя ўсёй фаміліяй (Масальскія, Корсакі). Дзеля прызначэння даты прыгадваецца імя св. Антонія. Апроч таго, у паказальніку фігуруюць 5 перасаналій, звязаных з працэсамі зверкі і ўпарадкавання Метрыкі ВКЛ у XVII—XVIII ст.

З XVI ст. прадстаўлены вельмі розныя па статусу людзі: паны Рады Вялікага Княства Літоўскага (Рады-Паноў) і радавітыя князі, саноўнікі ды службовыя асобы ВКЛ і Лівоніі, шляхта, святары, сяляне, чэлядзь нявольная. Вылучаюцца наступныя асноўныя катэгорыі прыгаданых асобаў: 1) непасрэдныя ўдзельнікі дэмаркацый з боку ВКЛ, пасланцы Караля і Вялікага князя Жыгімонта Старога; 2) саноўнікі і ўдзельнікі дэмаркацыі з боку Лівоніі; 3) жыхары памежжа ВКЛ рознага стану, памочнікі і сведкі дэмаркацыі, у тым ліку мясцовая адміністарцыя; 4) жыхары памежжа з боку Лівоніі; 5) такая вялікая частка прыгаданых, як скаржнікі, што складалі свае крыўды, панесеныя з боку лівонскіх памежных жыхароў, а найперш ордэнскай адміністрацыі Дынабурга.

Усе імёны пададзены ў назоўным склоне, размешчаны ў алфавітным парадку і вылучаны тоўстым шрыфтам. Кожная асоба ў паказальніку адзначаецца як пад асабовым імем, так і пад прозвішчам ці імем-мянушкай (варыянт – указанне на рамяство, занятак ці этнічна-тэрытарыяльнае паходжанне); калі прозвішча ці імя-мянушка адсутнічаюць – пад імем па бацьку, якія з цягам часу пераўтвараліся ў прозвішчы. Калі асоба мела падвойнае прозвішча, то яна адзначаецца як пад першым, так і пад другім прозвішчамі.

Асноўная згадка кожнай персаналіі даецца на сучаснай беларускай мове. Гэтак робіцца дзеля таго, каб выпрацаваць адпаведныя беларускія ўзоры ўжывання даўніх імёнаў для сучаснай

літаратуры – навуковай, папулярнай, краязнаўчай. Задача стварэння сучаснай формы імёнаў прымушае ў кожным канкрэтным выпадку вырашаць праблемы аднясення антрапоніма да прозвішча, імя па бацьку, прозвішча-мянушкі, мянушкі. Калі сучасная і гістарычная форма напісання імёнаў супадаюць, то такое імя даецца толькі адзін раз.

Практыка стварэння формаў сучасных імёнаў ужо замацоўваецца ў беларускай метрыстыцы – менавіта такім чынам рыхтуе Імянныя паказальнікі Валеры Мянжынскі[1]. Ва ўкраінскіх выданнях Метрыкі ВКЛ таксама выкарыстоўваецца прынцып перадачы асноўнай згадкі імя паводле прынцыпаў нацыянальнай антрапанімії[2]. Але пры перакладзе на сучасную мову імёны не павінны губляць ідэнтычнасці і падпадаць пад празмерную мадэрнізацыю. Так, **Григор** не будзе перадавацца ў нашым паказальніку як **Рыгор**; захоўваецца форма **Грыгор**.

Асноўная згадка пачынаецца з прозвішча (ці імя па бацьку ў выпадку адсутнасці прозвішча), далей ідзе імя, імя па бацьку (калі згадка пачынаецца з прозвішча), мянушка. Пасля сучаснай беларускай формы імя ў асноўнай згадцы пасля двукроп’я падаюцца формы напісання імя ў крыніцы ва ўсіх арфаграфічных варыянтах, якія падзяляюцца нахіленай рыскай /. Першай ставіцца форма, якая найбольш часта ўжывалася. Калі форма імя ў назоўным склоне выклікае сумневы, то ў асноўнай згадцы ў двукоссі прыводзіцца цытата з крыніцы. Парадак размяшчэння элемента поўнага імя таксама падаецца паводле крыніцы – найчасцей пачынаючы з асабовага імя, далей ідуць іншыя элементы поўнага імя. Складовыя часткі імёнаў і іхныя формы, якія ўдалося аднавіць паводле іншых крыніцаў, бяруцца ў прамыя дужкі. Далей у паказальніку імя асобы падаецца ва ўсіх варыянтах, пачынаючы з розных элементаў поўнага імя, і робяцца адсылкі да асноўнай згадкі. У выпадку яўна геаграфічнага складніка найменне чалавека (да прыкладу, Міхна Біржавіч, Бейціс Латыголін, Ян Ліцвін), у паказальніку падаюцца абедзве пошукавыя пазіцыі – паводле імені і паводле мянушкі. Такім чынам, выхад на асноўную згадку ажыццяўляецца ў любым выпадку. Але курсівам удакладняецца менавіта верагоднасць выканання этнічна-рэгіянальным вызначэннем функцыі імя-мянушкі:

**Бейтис Лотыголин** – *гл.* **Бейціс Латыголін**

**Бейціс Латыголін** (латгал*, магчыма, імя-мянушка*)**: Бейтис Лотыголин**, жыхар памежжа

---

[1] *Метрыка-43*, с. 114—125.

[2] *Метрика-561*, с. 82, 538—554.

**лотыголин Бейтис** – *гл.* **Бейціс Латыголін**

У выпадках, калі вядома агульнапрынятае пазнейшае родавае прозвішча, то яно падаецца як асноўная пазіцыя, бо менавіта на такую форму арыентуюцца даследчыкі ў пошуках патрэбнай інфармацыі. Трэба таксама ўлічваць, што нямецкія і латышскія імёны жыхароў Лівоніі падаюцца ў Кнізе № 560 Метрыкі ВКЛ у фанетычнай (славянізаванай) інтэрпрэтацыі яе ствaральнікаў; часам імёны лівонскіх службоўцаў падаюцца паводле лацінізаваных варыянтаў. Для службоўцаў ордэна і лівонскіх біскупаў іх арыгінальныя імёны магчыма ўдакладніць паводле даведнікаў. У паказальніку ўсе формы імёнаў такіх асобаў прыводзяцца як паводле Кнігі № 560, так і ў іх аўтэнтычным напісанні. Часціца **фон**, якая пазначае прыналежнасць да рыцарскага стану, у беларускай форме напісання ставіцца на канцы:

**Аскаремберк Ремандус** – *гл.* **Шарэнберг Рэмерт фон**

**Ремандус Аскаремберк** – *гл.* **Шарэнберг Рэмерт фон**

**Шарэнберг Рэмерт фон / von Scharenberg Remmert: Ремандус Аскаремберк**, комтур Рэвельскі (1534—1550: Militzer, s. 117), лівонскі камісар у час дэлімітацыі 1541 г.

У выпадках, калі форма імя ў назоўным склоне можа выклікаць пытанне, то прыводзіцца кароткая цытата з крыніцы, дзе гэтае імя фігуруе. Цытата падаецца пасля формы імя па-старабеларуску і заключаецца ў круглыя дужкі і двукоссі. Імёны па-беларуску і па-старабеларуску таксама падаюцца ў двукоссях. Пры рэканструкцыі беларускай формы імя пасля яго ставіцца знак пытання:

**“Мажук” (?): “Мозюк”** (“на князя Юръевого чоловека дворъ наехавъшы на ймя Мозюковъ”)

Калі элементы поўнага імя (імя, імя па бацьку ці прозвішча) розных асобаў супадаюць, то такія імёны маркіруюцца рымскімі лічбамі па парадку ліку. У Паказальніку такія імёны размяшчаюцца паводле парадку знаходжання на аркушах крыніцы:

**Аляксандравіч Піліп (I): Пилип Александрович**, мешч. брасл., скаржнік – 29

**Аляксандравіч Піліп (II): Пилип Александрович**, мешч. брасл., пацярпелы – 31

Стараючы канструкцыю Паказальніка імёнаў не ўхіліцца ад праблемы суаднясення найменняў на *–овичь* / *–евич*, *–ич* да прозвішчаў ці да імёнаў па бацьку. Прынцып простай літаральнай

перадачы супярэчыць законам сучаснай беларускай мовы. Праблема ўзнікае тады, калі неабходна паставіць націск у залежнасці ад таго – прозвішча гэта, ці імя па бацьку. Прозвішча, як сямейнае спадчыннае найменне, дадавалася да імя чалавека. У першай палове XVI ст. прозвішчы ў Вялікім Княстве Літоўскім не былі такой рэдкай з’явай. Актавыя і метрыкарныя матэрыялы ВКЛ сведчаць, што апроч княскіх і вяльможных (панскіх) фамілій прозвішчамі валодалі баяры-шляхта, а таксама мяшчане. Часта чалавек вызначаўся паводле імені свайго бацькі, адсюль і пашырэнне найменняў на *–ич (–ович*). Суфікс *–ич* утвораны з даўняга *–itjь*, які меў памяншальнае значэнне. Гэты старажытны суфікс выступае і ва ўскладненай форме *–ович* / *–евич*. Найменні на *–ич* аб’ядноўваюць у сабе не толькі значэнні прыналежнасці, але і ўзроставай памяншальнасці. За формамі на *–ович* / *–евич, –ич* замацавалася толькі значэнне імя па бацьку, і ўтварыліся яны як ад імёнаў, так і ад імёнаў-мянушак. Можна пагадзіцца з прынятым у беларускай лінгвістыцы поглядам, што кампаненты наймення на *–ович* / *–евич, –ич* у XIV—XVII ст. не з’яўляліся прозвішчамі ў нашым сучасным разуменні, як правіла, яны выступалі ў якасці імён па бацьку[3]. Таму яны павінны перадавацца сродкамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы з націскам на іншых ад канца, апроч перадапошняга, складах[4]. У выпадку, калі мы маем справу з шляхецкім родам, за якім найменне на *–ович* / *–евич, –ич* замацавалася як прозвішча, то гэтыя найменні падаюцца паводле правілаў прозвішча.

У тэксце таксама прысутнічаюць славізаваныя формы нямецкіх імёнаў, у якіх падаюцца і імёны па бацьку. Пры адсутнасці прозвішча галоўнай пазіцыяй у такіх выпадках будзе імя:

**Бридолгович Каспор** – *гл.* **Каспар Брыдоўгавіч**

**Каспар Брыдоўгавіч: Каспор Бридолгович / Яспор / Яспор Бридолгович**, немец Лівоніі, уладальнік селішчаў над воз. Солат

Даволі складана выглядалі ў XVI ст. поўныя жаночыя імёны. Спачатку падавалася прозвішча мужа, далей – вытворнае ад яго імя, а таксама часам вытворнае ад імя па бацьку мужа, далей – дзявочае прозвішча ці прозвішча першага мужа, толькі потым называлася ўжо

[3] Усціновіч А. К. *Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны (XIV—XVIII стст.).* Мн., 1975. С. 153; Шур, Васіль. *З гісторыі ўласных імёнаў*. Мн., 1993. С. 38.

[4] Гл. дыскусію на гэты конт: Свяжынскі У. М. Лінгвістычныя праблемы падрыхтоўкі выдання ўнутраных вопісаў актаў Магілёўскага магістрата. Т. 1 // *Архіварыус*: Зборнік навукова-папулярных паведамленняў і артыкулаў. Вып. 1. Мн., 2001. С. 135—137.

ўласнае імя і імя па бацьку. Натуральна, усе гэтыя элементы такой вялікай імяннной канструкцыі вытрымліваліся не заўжды. У паказальніку падаюцца ўсе гэтыя імёны, але як асноўнае падаецца прозвішча мужа ці, для незамужніх, родавае прозвішча.

Паказальнік імёнаў мае характар каментарыяў. У асноўнай згадцы пасля формаў сучаснага напісання імя і напісання паводле крыніцы праз працяжнік падаюцца звесткі паводле Кнігі № 560: 1) нацыянальна-дзяржаўная прыналежнасць (калі асоба была жыхаром ВКЛ, то гэта звычайна не адзначаецца; дзяржаўная прыналежнасць жыхароў Лівоніі адзначаецца заўжды); 2) сацыяльны статус асобы (зямянін, баярын, селянін – "жыхар селішча") ці рэгіянальна-функцыянальнае акрэсленне асобаў непрывілеяваных станаў (жыхар памежжа, сведка ў памежнай справе); 3) тытул ці яго адпаведнік у ВКЛ (пан, князь); 4) пасада; 5) інфармацыя пра родныя адносіны ці ступені сваяцтва з асобамі, прыгаданымі ў тэксце Кнігі № 560. Праз кропку з коскай падаюцца іншыя кароткія біяграфічныя звесткі (калі гэта магчыма) паводле іншых крыніцаў і даследаванняў (вядома, гэты пункт датычыць вышэйшай часткі шляхецкага і духоўнага саслоўяў ВКЛ і Лівоніі). Калі ў каментарыях прыгадваецца імя чалавека, персаналія якога таксама прысутнічае ў Кнізе № 560, то гэтае імя вылучаецца тоўстым шрыфтам, што азначае – гэтую асобу таксама трэба шукаць у паказальніку. Неабходныя ўдакладненні па датах і крыніцах змяшчаюцца ў круглыя дужкі. Усе гэтыя каментарыі робяцца на беларускай мове, пры неабходнасці падаюцца цытаты з крыніцы, якія бяруцца ў двукоссі.

Каб зрабіць Паказальнік імёнаў больш функцыянальным для шырэйшага кола чытачоў, а таксама "састыкаваць" паказальнік Кнігі № 560 з паказальнікамі іншых выдадзеных кніг Метрыкі ВКЛ, дзе напісанне імёнаў "мадэрнізуецца": перадача імёнаў паводле крыніцы робіцца сучасным кірылічным шрыфтам ("грамадзянскім"); імёны пішуцца без вылучэння курсівам вынасных літараў і заключэння ў дужкі скарочаных; літары "ъ" і "ь" выкарыстоўваюцца паводле сучасных правілаў правапісу; дыграф "кг" замяняецца літарай "г". Такім чынам, літары з тэксту крыніцы перадаюцца ў паказальніку праз літары сучаснага шрыфту:

ε як е
ω як о
ү як у
ѳ як ф
ӕ як я
ѧ як я

